



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 канала ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

4 жніўня 2017 года №31 (1162)


# У Вязынцы з асаблівай жорсткасцю забілі 14-гадовую школьніцу

МАЛАДЗЕЧНА

**Следчы камітэт высвятляе абставіны забойства 14-гадовай школьніцы. Цела дзяўчынкі з прыкметамі гвалтоўнай смерці знайшлі ў лесе недалёка ад яе дома 1 жніўня. Пра гэта паведамляе прэс-служба Следчага камітэта Беларусі.**

– Галоўным следчым упраўленнем узбуджаная крымінальная справа па факце забойства з асаблівай жорсткасцю непаўналетняй жыхаркі Маладзечанскага раёна, – паведамілі ў СК.

14-гадовая школьніца адшуквалася як без вестак зніклая з вечара 29 ліпеня. На чацвёрты дзень пошукаў яе цела знайшлі ў лесе недалёка ад месца жыхарства.

– Па папярэдніх дадзеных, смерць наступіла ў выніку механічнай асфіксіі (задушэння), – кажуць следчыя.

Затрыманы падазраваны. Гэта 23-гадовы жыхар Мінска. Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле 139 Крымінальнага кодэкса Беларусі: забойства з асаблівай жорсткасцю. Санкцыя артыкула – аж да пажыццёвага зняволення або расстрэлу.

– У цяперашні час следствам устанаўліваюцца акалічнасці і матыў злачынства, прызначанае правядзенне неабходных экспертыз, – дадалі ў Следчым камітэце.

Аддзел інфармацыі.

НАВІНЫ

## На Валожыншчыне 123 чалавекі пацярпелі ад укусаў кляшчоў

ВАЛОЖЫН

Сярод іх 46 дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў. Гэта тыя жыхары, якія звярнуліся ў медыцынскія ўстановы па дапамогу. Адзначаецца, што сёлета кляшчы актывізаваліся надзвычай рана.

Самаму маленькаму з пацярпелых было на момант укусу 1 год і 2 месяцы. Здарылася гэта на ўласным падворку ў Валожыне. Клешч быў выяўлены ў паўтарагадовага дзіцяці з вёскі Паморшчына, якога небяспека таксама падсцерагла на падворку ўласнага дома. Зарэгістраваны факт укусу кляшчом чатырохгадовага дзіцяці, якога бацькі ўзялі з сабой у лес.

Памочнік энтамолага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Марына Анціпава** адзначыла, што ў бягучым годзе спецыяльнымі прэпаратамі апрацаваны 148 тысяч квадратных метраў тэрыторыі, куды ўвайшлі зоны аздараўленчых лагераў і масавага адпачынку ля вадаёмаў. Таксама ёй дадзена заданне па дастаўцы 100 асобін кляшчоў у ліпені і столькі ж у жніўні для даследаванняў у абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

Тым, хто збіраецца ў лес, варта помніць пра меры перасцярогі закрываць галаву і адкрытыя ўчасткі цела. На ўласных жа прысядзібных участках можна заказаць платную апрацоўку спецыяльнымі сродкамі.

## Станьце ўдзельнікамі фотапраекта "Захопленыя чытаннем"

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН, МЯДЗЕЛ

Конкурс аб'явілі бібліятэкі раёна. Для ўдзелу ў ім трэба даслаць ваша фота з кнігай на электронных носьбітах альбо проста прынесці яго ў раённую і дзіцячую бібліятэку і напісаць некалькі слоў, чаму вы любіце менавіта гэту кнігу.

Вынікам конкурсу стануць альбомы, дзе размесцяць найбольш цікавыя фатаграфіі з каментарыямі дарослых чытачоў і дзяцей. Яны будуць аформлены да прафесійнага свята бібліятэчных работнікаў, якое адзначаецца восенню.

Удзельнікі атрымаюць прызы, а ўсе астатнія чытачы каляровыя рэкамендацыі, якую кнігу трэба прачытаць абавязкова.

## 5 жніўня зладзяць "прамую лінію" з намеснікам старшыні Вілейскага райвыканкама

ВІЛЕЙКА

У райвыканкаме расказалі, што "прамую лінію" з намеснікам старшыні райвыканкама **Святланай Дзяругай** правядуць 5 жніўня, у суботу.

Са сваімі пытаннямі жыхары горада і раёна могуць звяртацца ад 9:00 да 12:00 па тэлефоне **8 (01771) 5-53-41.**

Аддзел інфармацыі.

## Смаргонка перамагла на міжнароднай алімпіядзе па біялогіі

СМАРГОНЬ

Выпускніца смаргонскай школы №5 **Паліна Тумаш** перамагла ў міжнароднай алімпіядзе па біялогіі, якую ладзілі ў Вялікабрытаніі ад 23 да 30 ліпеня.

У алімпіядзе ўдзельнічалі 260 вучняў з 67 краін. Вынік Паліны стаў другім у камандзе. Рыхтавала Паліну настаўніца **Святлана Піліпчук.**

Пра гэта расказалі ў смаргонскай школе №5.

Аксана ЯРАШОНАК.

## У Маладзечне зладзяць дабрачынны канцэрт

6 жніўня ў Летнім амфітэатры тэатр песні "Мерыдыян"зладзіць канцэрт "Тэрыторыя сэрца".

Сабраныя грошы перададуць на лячэнне паўтарагадоваму Кірылу Нікіцюку з Брэста. У хлопчыка сіндром Віскота-Одрыча, з якім дзеці звычайна жывуць да трох гадоў.

Дзіцяці патрэбная трансплантацыя коснага мозга ў Германіі.

У амфітэатры ўсталююць урны, куды кожны зможа ўкласці ўнёсак на лячэнне.

Пра гэта расказала кіраўнік тэатра песні "Мерыдыян" **Алеся Кульша**.

На канцэрце выступяць тэатр песні "Мерыдыян", спевакі **Юры Баравец**, **Віталь Качаткоў**, **Дзяніс Маркевіч**, барабаншчык **Анатоль Баканаў**, гітарыст **Алег Дарошын** і іншыя.

Наталля ТУР.

### Спачуванне

Выказваем шчырае спачуванне нашай пазаштатнай аўтарцы, жыхарцы Ілы **Галіне Буркевіч** і яе сям'і з прычыны напаткаўшага вялікага гора – смерці мужа, бацькі, дзядулі і прадзядулі **Віктара Буркевіча**.

Калектыў "Рэгіянальнай газеты".



Загадчыца аддзела інфармацыі "РГ" Зоя Хруцкая ў гасцях у Адама Мальдзіса. Студзень, 2017.

Фота з архіва "РГ".

# Што варта ведаць пра Адама Мальдзіса:

## да 85-годдзя пісьменніка, акадэміка, прафесара

АСТРАВЕЦ

**7 жніўня 85-гадовы юбілей адзначае прафесар, доктар філалагічных навук, літаратуразнаўца, гісторык, журналіст Адам Мальдзіс.**

А яшчэ ён – даўні сябар нашай газеты.

Мы віншуем Адама Восіпавіча з юбілеем, зычым здароўя, натхнення і ўдзячных за сяброўства і супрацоўніцтва.

А цяпер крыху пра тое, чаму варта ведаць і паважаць юбіляра.

Адам Мальдзіс – ураджэнец нашага рэгіёна. Ён нарадзіўся ў вёцы Расолы ў сям'і сялян. Сёння – гэта Астравеччына. А ў 1930-х гадах вёска ўваходзіла ў склад Ашмянскага павета. Па лініі бацькі мае літоўскія карані.

Вучыўся ў гудагайскай сямігодцы. З дапамогай прафесара Мальдзіса ў яго роднай школе стварылі музей. Сёння педагогі кажуць, што самыя каштоўныя экспанаты ў музеі – гэта падарункі пісьменніка.

Адкрыў імёны невядомых раней ураджэнцаў Астравеччыны – паэта і святара **Казіміра Сваяка**, мастакоў **Мар'яна Богуша-Шышкі і Льва Дабжыньскага**, падарожніка, дыпламата, перакладчыка **Іосіфа Гашкевіча**.

У 1974 годзе Адам Восіпавіч упершыню ў беларускім друку расказаў, адкуль і пры якіх абставінах знікла галоўная беларуская святыня – Крыж Еўфрасінні Полацкай.

Пошукам крыжа навуковец займаецца больш за 40 гадоў. Па яго словах, некалі нават звярталіся па дапамогу ў пошуках да балгарскай прарочыцы Вангі. Тая абяцала, што крыж хутка знойдзецца.

Прафесар адкрыў і таямніцы знікнення іншых рэліквій нашай зямлі: рукапісаў, абразоў, карцін, старажытных бібліятэк, партрэтаў, гравюр, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Па яго падліках, у Беларусі засталося толькі 5-10 працэнтаў ад усіх нацыянальных каштоўнасцяў.

Знайшоў шмат слуцкіх паясоў, якія былі вывезены з Беларусі. На думку прафесара, каля 300 з іх цяпер знаходзіцца ў Маскве.

У час візітаў у Маладзечна пазнаёміўся з актрысай ураджэнкай Мядзельшчыны **Паўлінай Мядзёлкай** і жыхаром Маладзечна гісторыкам **Міколам Ермаловічам**. Прымаў удзел у рабоце маладзечанскага літаратурнага аб'яднання, якім кіраваў Ермаловіч.

Для Павілля Адам Мальдзіс адкрыў асобу кампазітара і грамадскага дзеяча **Міхала Клеафаса Агінскага**. Даказаў, што знакамітыя паланэзы кампазітар пісаў менавіта ў смаргонскім Залессі, а не ў Польшчы, як лічылі раней.

Дабіўся, каб у мінскім метро станцыі абвяшчалі на беларускай мове. Пасля па-беларуску пачалі аб'яўляць прыпынкі і ў наземным транспарце сталіцы.

Шматгадовае сяброўства звязвала Адама Мальдзіса з пісьменнікам **Уладзімірам Караткевічам**. Пасля смерці Уладзіміра Сямёнавіча Мальдзіс расказаў пра гэтае сяброўства ў кнізе "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча".

У 1990 годзе быў на аўдыенцыі ў папы Рымскага **Яна Паўла Другога.**

Біяграфічны цэнтр Кембрыджскага ўніверсітэта ў 1997 годзе прызнаў беларускага прафесара Чалавекам года ў галіне культуралогіі і ўзнагародзіў медалём Гонару.

Некаторыя паштоўкі са сваёй асабістай калекцыі Адам Мальдзіс перадаў калекцыянеру і гісторыку **Уладзіміру Ліхадзедаву**. Там яны не прападуць, перакананы прафесар.

Прафесар Мальдзіс – экс-прэзідэнт, а ад 2010 года – ганаровы старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны, іншымі медалямі, а таксама некалькімі ганаровымі адзнакамі суседніх краін. З'яўляецца ганаровым грамадзянінам Польшчы.

Напрыканцы мінулага года Адам Мальдзіс заступіўся за астравецкія дубы, якія прадстаўнікі мясцовых уладаў хацелі ссекчы для будаўніцтва новага мікрараёна. Тыя, хто прыняў рашэнне зразаць каралеўскія дубы, абсалютна не ведаюць гісторыі, сказаў "Рэгіянальнай газеце" пісьменнік.

Ён аб'явіў, што адмовіцца ад звання "Ганаровы грамадзянін Астраўца", калі ўлады ссякуць старыя дрэвы. У выніку ў Інстытуце батанікі Акадэміі навук Беларусі дубы ўзялі пад навуковы кантроль.

А прафесар стаў пераможцам у конкурсе нашай газеты "Асоба года" ў намінацыі "Учынак года".

Аддзел інфармацыі.

# Завяршылі праект па развіцці вёсак Крывасельскага сельсавета

ВІЛЕЙКА

**Дзевяць месяцаў, адведзеных на праект "Пашырэнне эканамічных магчымасцяў сельскай Беларусі" ў вёсках Крывасельскага сельсавета, скончыліся.**


Фота belchas.by.

Пётр Церах з Крывога Сяла гадуе трусоў незвычайных парод.

Што за гэты час і за гэтыя грошы тут зрабілі? Як змянілася за гэтыя дзевяць месяцаў жыццё вяскоўцаў? Нагадаем, што на рэалізацыю праекта Еўрасаюз выдзеліў 18 тысяч еўра.

Па-першае, стварылі кааператыў. Сюды, па словах старшыні сельсавета **Ірыны Супрановіч**, увайшла большасць вясковых актывістаў. Калі чалавек актыўны, то актыўны ён ва ўсім, перакананая старшыня. Большасць сяброў кааператыва – жыхары Крывога Сяла і суседняй вёскі Грыцукі. Аднак і з далёкіх Катлоўцаў таксама знайшліся двое ахвотных, якія будуць разводзіць свойскую птушку.

Ад тых, хто уступіў у кааператыў, патрабуюцца паявыя ўнёскі і справаздачнасць ад дзейнасці. Пакуль усё тое, што набылі, знаходзіцца на балансе сельвыканкама. Але да канца года, кажа старшыня, усё перавядуць на кааператыў.

### 14 авечак і 50 трусоў – у гаспадарку кааператыва

Дык што ж набылі для мясцовага фермерскага кааператыва? Ноўтбук, праектар, экран да яго і фотаапарат купілі ўжо даўно. Таму цяпер усе мерапрыемствы ў сельсавеце праводзяць з мультымедыяй.

– Неяк да нас па іншым міжнародным праекце немцы прыляталі, дык вось не сорамна было іх сустрэць, – прыгадвае Ірына Аляксандраўна.

Для жывёлаводаў закупілі 14 авечак і 50 трусоў. Гэтыя жывёлы гадуюцца на прыватных падвор'ях у гаспадароў, якія да таго ж трымаюць і ўласную гаспадарку.

Трусагадоўца **Пётр Церах** трусоў разводзіць 12 год. Абірае незвычайныя пароды, дэманструе сваіх гадаванцаў на выставах.

Да таго ж у гаспадарцы сям'і Цераха ёсць качкі, свінні, козы, пчолы. Некаторыя вяскоўцы з малымі ўнукамі ходзяць да яго, нібыта на экскурсію.

Жыхары Крывога Сяла і бліжэйшых вёсак ведаюць, да каго звярнуцца за карысным трусіным мясам. Цяпер, па словах Ірыны Супрановіч, вырашаецца пытанне пра больш сур'ёзную рэалізацыю трусяціны з крывасельскага кааператыва.

### Праблемны падатак на дабаўленую вартасць

У межах праекта ў Крывым Сяле і ў вёсцы Рэчкі ўстанавілі інфармацыйныя стэнды. Тут вяскоўцы змогуць прачытаць пра навіны сельсавета.

У Маладзечне замовілі вялікі каляровы білборд, які плануюць усталяваць у Сосенцы. На ім будзе карта сельсавета з указаннем помнікаў гісторыі, храмаў, кавярняў, магазінаў.

З тэхнікі ў кааператыве з'явіўся невялікі трактар, гранулятар кармоў для трусоў і інкубатар для свойскай птушкі. Інкубатар па дамоўленасці члены кааператыва будуць перадаваць адзін аднаму.

Аднак, па словах Ірыны Супрановіч, з набыццём тэхнікі ўзніклі праблемы. Аказваецца, усё тое, што набываецца за сродкі міжнароднай тэхнічнай дапамогі, вызваляецца ад падатку на дабаўленую вартасць.

А працаваць на такіх умовах большасць пастаўшчыкоў не жадае.

– Ва ўмовах праекта было прапісана, што мы павінны аказваць паслугі насельніцтву, – распавядае Ірына Супрановіч. – Напрыклад, добраўпарадкаваць участак з дапамогай трактара. Для гэтага патрэбнае дызпаліва. А хто прадасць нам яго без гэтага падатку?

### Як немцы садзілі рукалу ў крывасельскую зямлю

У рамках праекта былі прадугледжаныя і семінары. Вяскоўцаў вучылі прадпрымальніцкай дзейнасці, экалагічнаму земляробству, распавядалі пра тое, як будзе дзейнічаць новы кааператыў.

"Пашырэнне эканамічных магчымасцяў сельскай Беларусі" – не адзін міжнародны праект Крывасельскага сельсавета. Нядаўна тут запусцілі сумесны беларуска-германскі праект па сельскай гаспадарцы.

Па словах старшыні сельсавета, госці з Германіі ўжо наведалі Крывое Сяло. Расказалі вяскоўцам, што і як яны садзяць на сваіх участках. Разам з беларусамі немцы пасадзілі рукалу і базілік.

І нарэшце, яшчэ адзін праект – правядзенне "Юшка-фэсту" на гарадскім пляжы Вілейскага вадасховішча. Свята пачнецца 12 жніўня ў 12:00 і працягнецца да апоўначы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.07 | 3.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9505 | **1,9512** |
| Еўра | 2,2671 | **2,3100** |
| Злоты, 10 | 5,3321 | **5,4287** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2543 | **3,2205** |
| Грыўня, 100 | 7,5294 | **7,5292** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 26.07 | 2.08 |
| Еўра | 2.2600/2.2800 | **2.2850/2.3100** |
| Долар ЗША | 1.9400/1.9600 | **1.9350/1.9550** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 26.07 | 2.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | Павільён зачынены з-за спякоты |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,85 | **3,95** |
| Селядзец, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **10,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,30 | **1,30** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,69 | **0,93** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,50** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **5,95** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 0,80 | **0,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | - | **3,50** |
| Морква, 1 кг | 1,10 | **1,10** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,00 | **0,50** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,90 | **3,45** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,60 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,00 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 1,80 | **1,40** |
| Агуркі, 1 кг | 1,30 | **1,10** |
| Перац, 1 кг | 2,50 | **1,59** |
| Кавун, 1 кг | 0,75 | **0,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **2,99** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 4,00 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 4,60 | **4,60** |
| Персікі, 1 кг | 3,20 | **2,95** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,50 | **3,20** |
| Абрыкосы, 1 кг | 4,00 | **3,40** |
| Бананы, 1 кг | 2,00 | **1,79** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,90 | **3,95** |
| Гранаты, | 9,90 | **9,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,10** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 4,00 | **2,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **-** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | **0,60** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

## Чарніц мала, брусніц і дурніц будзе больш

Сезон збору чарніц, афіцыйна адкрыты 3 ліпеня, у лясах рэгіёна працягваецца.

Аднак, як расказалі "Рэгіянальнай газеце" ў Інстытуце лесу нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, ураджай гэтых ягад куды больш сціплы, чым летась.

У Ашмянскім, Смаргонскім і Астравецкім раёнах ураджайнасць чарніц меншая ў паўтара-два разы ў параўнанні з мінулым годам.

Прычына – у прыродных анамаліях, якія паўплывалі на бутоны чарніц. Яны падмерзлі ў час замаразкаў у маі.

Брусніцы і дурніцы на момант замаразкаў былі ў стадыі абуджэння і пачатку з'яўлення парасткаў. Таму замаразкі ў маі шкоды ім не нанеслі.

На Міншчыне брусніцы дазволяць збіраць ад 25 жніўня. Журавіны, па адзнаках спецыялістаў, – ад 8 верасня.

А вось аматары "ціхага палявання", па словах вучоных, могуць быць задаволены. Нягледзячы на халодную вясну, ураджай грыбоў прагназуюць большы, чым летась, пры дастатковай колькасці ападкаў у жніўні і верасні.

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

## Накрыўка адсека акумулятара пашкодзіла машыну

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне з катэгорыі "што такое не пашанцавала і як з гэтым змагацца" адбылося ў нядзелю, 23 ліпеня, у вёсцы Насілава.

Кіроўца аўтамабіля "Пежо 806" рухаўся ў бок Смаргоні.

Яму насустрач рухаўся аўтамабіль "МАЗ МАН", ззаду якога быў прычэп.

І трэба ж такому здарыцца, што, калі машыны разміналіся, з МАЗа зляцела накрыўка акумулятара, металічны ліст, і ўдарылася ў левы бок "Пежо".

Ад удару ў машыне разбілася левая фара, пашкоджаны капот, бампер, рашотка радыятара.

Кіроўца МАЗа патлумачыў, што ён, відаць, дрэнна замацаваў накрыўку, калі ехаў, сапраўды, чуў шум.

За сваю неахайнасць кіроўца заплаціў штраф, расказаў "Рэгіянальнай газеце" інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

**Наталля ТУР.**

## У возеры ў Смаргоні патануў хлопчык

СМАРГОНЬ

Цела дзіцяці знайшлі ў возеры на глыбіні двух з паловай метраў.

Паведамленне пра тое, што ў час купання загінуў 11-гадовы хлопчык, выратавальнікі атрымалі 27 ліпеня ў 15:30. Пасля 16:00 у 20 метрах ад берага выратавальнікі знайшлі і дасталі цела.

Па словах дзяцей, відавочцаў трагедыі, яны бачылі, як хлопчык плаваў па возеры на вялікім лісце пенапласту, а потым зваліўся з яго ў ваду. Некалькі разоў дзіця з'явілася на паверхні, а потым пайшло на дно.

Восенню хлопчык пайшоў бы ў шосты клас смаргонскай гімназіі №4.

**Паводле прэс-службы Гродзенскага абласнога УМНС.**

## Шукаюць сведкаў ДТЗ, у якім пацярпеў пешаход

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося яшчэ 31 снежня, а крымінальную справу Валожынскі РАСК узбудзіў 26 ліпеня.

Следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі** патлумачыў:

– Летась 31 снежня каля 23:00 паблізу мястэчка Ракаў невядомы кіроўца наехаў на пешахода. З месца здарэння кіроўца знік.

Мужчына з цялеснымі пашкоджаннямі звярнуўся ў міліцыю. Пасля ўсіх праведзеных праверак Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па артыкуле "Пакіданне месца ДТЗ".

Следчы камітэт горада Валожына просіць усіх, хто быў сведкам таго здарэння, звярнуцца ў Следчы камітэт.

**Наталля ТУР.**

## Лось выбег на дарогу, віляйчанін загінуў

ВІЛЕЙКА

Трагедыя адбылася 28 ліпеня каля дзевяці гадзін раніцы. На прамым участку дарогі Ушачы-Вілейка кіроўца матацыкла "Хонда" рухаўся ў накірунку мястэчка Ушачы. На 113 кіламетры на дарогу прама перад матацыклам выскачыў лось.

Хлопец спрабаваў ухіліцца, аднак сутыкнення пазбегнуць не ўдалося. Страціўшы кіраванне, матацыкл выехаў у правы кювет і перакуліўся. У выніку ДТЗ ад атрыманых траўмаў 24-гадовы віляйчанін загінуў на месцы.

Жывёла з траўмамі ўцякла ў лес.

Праз тыдзень хлопцу павінна было споўніцца 25 гадоў.

Пра гэта расказалі ў РАУС Вілейскага раёна.

## У Асіпавічах патануў мужчына

ВІЛЕЙКА

Пра цела мужчыны на паверхні вадаёма ў Асіпавічах выратавальнікам паведамілі адпачывальнікі раніцай 29 ліпеня.

Як распавялі ў Следчым камітэце, мужчына быў жыхаром Вілейкі. У Асіпавічах ён адпачываў на лецішчы.

Верагодна, ён патануў за тры дні да таго моманту, як яго знайшлі.

Бачных пашкоджанняў на целе няма.

**Аксана ЯРАШОНАК.**






Артур Міхайлаў вяртаўся з сольнага канцэрта ў Маскве, калі на яго ў аўтобусе напаў невядомы.

# Хуліган ударыў саліста "Песняроў" нажом у твар

МАЛАДЗЕЧНА

**Саліст ансамбля маладзечанец Артур Міхайлаў ноччу вяртаўся на аўтобусе з Масквы ў Мінск. І раптам адчуў моцны ўдар нажом у сківаў…**

Пра тое, што здарылася ў аўтобусе, Артур расказаў "Рэгіянальнай газеце":

– Шчыра кажучы, я хачу забыцца пра тую гісторыю. Нічога гераічнага ў ёй няма. Вярталася я са свайго сольнага канцэрта, таму ехаў адзін, як Артур Міхайлідзі. У аўтобусе Масква-Мінск ехаў неўраўнаважаны пасажыр. Ён з самай Масквы шукаў канфлікту. То яму дзьме, то моцна размаўляюць у салоне, то яму няма месца, то сусед не той. Яму неаднаразова рабілі заўвагі, здавалася, што ён нарэшце супакоіўся.

Калі сцямнела, Артур дастаў навушнікі і ўключыў паглядзець фільм. І раптам адчуў моцны ўдар у сківаў.

– Той мужчына з нажом хадзіў па салоне, чаму ён выбраў менавіта мяне, я не ведаю. Але ўдарыць ён мецікся ў шыю. Я ўскочыў, спрабаваў вырваць нож у яго з рук, аднак гэта было не так проста. Мужчына аказаўся вельмі дужым.

Уціхамірылі хулігана толькі міліцыянеры, якія ўвайшлі ў аўтобус пасля таго, як кіроўца спыніў яго паблізу паста ДПС.

Артуру Міхайлаву медыкі наклалі на твар восем швоў.

– Я некалькі дзён увогуле не мог гаварыць. Канешне, у канцэртнай дзейнасці я вымушаны зрабіць перапынак. Дырэктар "Песняроў" **Раман Козыраў** даў бальнічны. Ці баюся я, што застанецца шнар? Так, я ж артыст. Але ведаю, што шнары ўпрыгожваюць мужчыну, – сумна смяецца Артур. – І дадаў: – Лепш бы спыталіся ў мяне пра сольную кар'еру, а то ўсіх цікавіць толькі паранажоўшчына.

Па словах Артура, мужчыну, што напаў на яго, пагражае да пяці гадоў пазбаўлення волі. Нападнік з Расіі, былы ваенны.

**Наталля ТУР.**

## У Маладзечне п'яная маці кінула аднагадовае дзіця ля пясочніцы

МАЛАДЗЕЧНА

10 ліпеня каля 13:00 жыхары вуліцы Вальнцца паведамілі ў міліцыю, што ў двары з маленькім дзіцем сядзіць вельмі п'яная жанчына.

Супрацоўнікі РАУС, што прыбылі на месца здарэння, убачылі толькі адну маленькую дзяўчынку, маці некуды знікла.

Дзяўчынку даставілі ў дзіцячую бальніцу, яна здаровая.

З маці цяпер працуюць у камісіі па справах непаўналетніх. Яны і будуць вырашаць пытанне аб тым, каб пазбавіць маці дзяўчынкі бацькоўскіх правоў.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў намеснік па ідэалагічнай рабоце Маладзечанскага РАУС **Уладзімір Васількоў.**

**Наталля ТУР.**

## У рыбака скралі турыстычныя крэслы, газавы прымус і торбу

СМАРГОНЬ

Днямі жыхар Мінршчыны прыехаў на рыбалку на возера Свір, што ў Смаргонскім раёне.

Ён паставіў палатку і застаўся начаваць. Апоўначы ненадоўга адышоў праверыць рыбалоўныя прылады. А калі вярнуўся, заўважыў, што на месцы няма двух турыстычных крэслаў і газавага прымуса.

Невядомы прыхапіў з сабой і торбу з прадуктамі, пакінуўшы рыбака без харчавання. Пацярпелы звярнуўся ў міліцыю.

Па гарачых слядах затрымалі 28-гадовага мясцовага жыхара. Ён некалькі гадзін пільнаваў, пакуль рыбак пакіне палатку, каб скрасці яго рэчы.

Усё, акрамя прадуктаў, пацярпеламу вярнулі.

**Паводле УУС Гродна.**

## Скраў сасіскі, глазураваны сырок і адбіўся ад ахоўніка

МЯДЗЕЛ

Днямі ў курортным пасёлку Нарач мясцовы жыхар абрабаваў магазін.

На вачах у ахоўніка ён пранёс міма касы паўкілаграма сасісак і глазураваны сырок. Ахоўнік спрабаваў затрымаць злодзея, але той вырваўся.

– Дагнаць мужчыну не атрымалася, таму адміністрацыя магазіна звярнулася да нас па дапамогу, – распавёў начальнік крымінальнага вышуку Мядзельскага РАУС **Аляксандр Кабяк**.

Супрацоўнікі РАУС вывучылі запіс з камер відэаназірання, устанавілі асобу мужчыны і знайшлі яго.

У сакавіку гэты ж мужчына вынес з крамы ў Маладзечне дзве бутэлькі гарэлкі.

Цяпер злодзей затрыманы.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Мядзельская і Смаргонская ЦРБ – лідары па ўкамплектаванасці штату

**Сёлета ў рэгіёне ад 1 жніўня пачалі працу 109 дактароў, 53 інтэрна і 167 спецыялістаў з сярэдняй медыцынскай адукацыяй.**

Традыцыйна лідарам па колькасці маладых спецыялістаў стала Маладзечна. Сюды накіравалі 117 медыкаў.

Лідарамі па ўкамплектаванасці штату можна лічыць Мядзельскую і Смаргонскую ЦРБ – штат цалкам укамплектаваны. У Мядзел сёлета нават не накіроўвалі інтэрнаў.

У іншых бальніцах няма вострай неабходнасці ў вузкіх спецыялістах, пераважна патрэбныя ўчастковыя тэрапеўты. У Вілейцы гэта праблема вырашыцца налета: пасады зоймуць спецыялісты, якія сёлета накіраваныя інтэрнамі.

## Колькасць маладых спецыялістаў у лячэбных установах рэгіёна

**Маладзечна**
43 дактары

1 афтальмолаг, педыятр, дэрматолаг-венеролаг, фтызіятр, доктар "хуткай дапамогі", стаматолаг, інфекцыяніст, анколаг, доктар лабараторнай дыягностыкі
2 неўролагі, тэрапеўты, даларынголагі, участковыя педыятры, доктары агульнай практыкі, неанатолагі, псіхіятры-нарколагі
3 участковыя тэрапеўты, рэнтгенолагі
7 анестэзіёлагаў-рэаніматолагаў, акушэраў-гінеколагаў

**Мядзел**
12 дактароў

1 інфекцыяніст, даларынголаг, рэнтгенолаг, неўролаг, неанатолаг, тэрапеўт, стаматолаг
5 дактароў агульнай урачэбнай практыкі

**Смаргонь**
12 дактароў

1 стаматолаг, анестэзіёлаг-рэаніматолаг, лабараторнай дыягностыкі
2 неанатолагі, дактары агульнай урачэбнай практыкі
5 участковых тэрапеўтаў

**Ашмяны**
3 доктары

1 псіхіятр-нарколаг, неўролаг, рэнгенолаг

**Вілейка**
7 дактароў

1 участковы тэрапеўт, доктар лабараторнай дыягностыкі, рэнтгенолаг, доктар "хуткай дапамогі", неўролаг
2 хірургі

**Астравец**
20 дактароў

1 акушэр-гінеколаг, анколаг, анестэзіёлаг-рэаніматолаг, лабараторнай дыягностыкі, эндаскапіст, інфекцыяніст, доктар функцыянальнай дыягностыкі, эндакрынолаг, агульнай практыкі
3 "хуткай дапамогі"
3 участковыя педыятры
5 тэрапеўтаў

**Валожын**
12 дактароў

1 анколаг, анестэзіёлаг-рэаніматолаг, неанатолаг, педыятр, доктар лабараторнай дыягностыкі
2 хірургі, тэрапеўты
3 акушэры-гінеколагі

## Медыцына Беларусі ў лічбах






# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.**
ВІЛЕЙКА вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Зафіра А рэстайлінг, 2.0 дызель, 2004 года. Т. (8-029) 1249091.*

• Пежо-407, 2007 г., Т. МТС (8-029) 5745917.

• Фольксваген-Джэта, 1984 г.в., у добрым стане, на хаду. Т. (8-033) 3302541.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*

## ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра на 3-м паверсе ў Вілейцы ў раёне Зеніт. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. (8-029) 5679826.

• 1-пакаёвая кватэра ў Валожыне. Т. (8-029) 1237382.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н з-да "Зеніт", 3 паверх 5-павярховага дома. Свежы рамонт. Т. (8-029) 1331698, 98-029) 5559694.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5081223.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-029) 3443740*.

• 3-пакаёвая кватэра на другім паверсе ў Маладзечне па вул. Віленскай, 64,4/39,7 м2. Т. (8-029) 1972673, (8-029) 9979026.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Валожыне. Т. Вэлком (8-029) 1478232.*

• Дача з мэбляй, ёсць халадзільнік, газавая пліта, інвентар, 2 цяпліцы, сад, кусты, 6 сотак. Вёска Гай Маладзечанскага раёна. Дорага, торг. Т. 98-029) 3043585.

• Дача ў Вілейскім р-не, вёска Прынта. Т. (8-029) 9074111.

• Дача ў Татаршчызне ў с/т "Пісараўская бярозка". Участак 5 сотак, дом 31,7 м². Святло, сезонная вада, прывазны газ – балон, печ. 11000 рублёў, разумны торг. Т. (8-029) 1998923 (Дзмітры).*

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, водаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*

• Дом у в. Куранец. Т. (8-029) 7603076.*

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага раёна Мінскай вобласці, 20 сотак, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-029) 8587518, (8-01771) 55349.*

• Дом у в. Порса з выгодамі. Т. (8-033) 3011041.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в. Шастакі, 13 км. ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.



• Дом у Вілейскім р-не, Касцяневіцкі с/с, в. Навасёлкі, ёсць 2 газавыя балоны. Т. (8-0176) 778635.*

• Дом у горадзе Валожын, у цэнтры, 9 сотак, 70 кіламетраў ад Мінска. Т. (8-01772) 54154, (8-029) 2258403.

• Дом цагляны ў в. Куранец Вілейскага раёна, больш за 100 м2, зямельны ўчастак – 40 га, 9000 рублёў. Т. МТС (8-029) 5609398, 98029) 5609402.*

• Новы зруб лазні 5Ч4 пад дахам з выхадам 4 м. Т. (8-029) 3436138.

• Участак 15 сотак, в. Раеўшчына, Маладзечанскі р-н, электрычнасць, газ побач. 21 тыс. руб. Т. (8-033) 6666466, (8-044) 7006666.*

## ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-044) 7182552.*

• Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*

## МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру ў Гомелі на 1-пакаёвую альбо дом у Маладзечне. Т. (8-029) 9168299, (8-044) 7031972.*

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФАТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.
Т. (8-029) **651 20 36**.

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-Бэнц-Спрынтар да 2-х тон (4,2Ч1,6Ч1,75) горад, РБ, РФ. ІП Навойчык О.В. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*



• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катэраў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Усе віды зварачных работ. Т. ІП Кумпяк І.М. УНП 691182247.(8-029) 5676481.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), імітацыя бруса, **ПІЛАМАТЭРЫЯЛЫ** і інш. Маладзечна, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла, віцебскі пячны цэх №1, цэгла шамотная. Т. (8-044) 7557072, (8-029) 8351640.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.

• Звяно злучальнае (бінокль) да польскай капалкі (100 штук). Т. (8-029) 8658044.

• Трактар МТЗ-50 у выдатным стане, з дакументамі. Поўны капрамонт у 2016 годзе. Т. (8-029) 6342851.*



• Трактар самаробны, дызель. Т. (8-033) 3865672.

• Трактар Т-25, з агрэгатамі. Т. (8-033) 6849313.*

• Трактар Т-40, навяснoe, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік "Атлант" у выдатным стане, б/у. Тэлефанаваць на нумар (8-044) 4985602.



**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Музінструмент**

• Акардэон s, 600 руб. Т. (8-029) 5475524.*

**Іншае**

• Бараніна жывой вагой – 4,5 руб, мясам – 8,5 руб. Т. (8-029) 6769359 Віталь.

• Вуллі новыя, танна. Т. (8-029) 9950326, (80176) 532543.*

• Камплект летняй гумы на літых дысках для Пежо 405 R14. Т. 98-0290 5037346.*

• Лодка шклопластыкавая "Пелла" старога ўзору, знаходзіцца ў Нарачы, 1000 рублёў. Т. (8-029) 5029729.

**КУПЛЮ**

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Мост вядучы і інш. запчасткі да МТЗ-82. Т. (8-029) 8775982.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• Антыкварыят, статуэткі, гадзіннікі, грамафоны, карціны, мэблю і іншыя старажытныя рэчы. Т. МТС (8-033) 9030854, Вэлком (8-029) 1447482.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 2664373.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

## ПРАЦА

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Малярныя, аддзелачныя работы, тынкоўка, работы па гіпсакардоне, укладка пліткі. Т. (8-029) 8727844.*

**ПАТРАБУЮЦЦА**

• Кіроўцы-міжнародніки кат. "Е", з досведам працы, узрост да 45 гадоў. ТАА "СкараходТранс" УНП 591800134. Т. (8-044) 7607256, (8-029) 6216445.



Помнік-прысвячэнне мастаку Уладзіславу Страмінскаму з'явіўся ў Вілейцы падчас пленэру скульптараў у 2013 годзе.

## У Вілейцы рыхтуюцца да абласнога пленэру скульптараў

ВІЛЕЙКА

Ад 7 да 26 жніўня ў Вілейцы зладзяць абласны пленэр скульптараў на тэму "Вілія і яе берагі", раказаў "Рэгіянальнай газеце" начальнік аддзела культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі райвыканкама **Сяргей Паўлоўскі**.

Майстры – выкладчыкі сталічных мастацкіх устаноў – будуць жыць і працаваць на тэрыторы каледжа. Сюды з-пад Куранца ўжо прывезлі камяні для будучых твораў.

Кіруе скульптарамі **Анатоль Арцімовіч** – майстар, карані якога з Куранца. Ён – прафесар, працуе на кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Найбольш вядомыя творы Анатоля Арцімовіча – гэта "Курган Славы" ля Мінска, помнік Рагнедзе і Ізяславу ў Заслаўі.

Скульптары прадставілі эскізы сваіх работ у савет па дэкаратыўна-манументальным мастацтве пры Мінаблвыканкаме.

Усе працы будуць звязаныя з Віліяй, гісторыяй і сучаснасцю Вілейкі.

Гатовыя творы плануюць устанавіць у горадзе.

Такія пленэры ладзілі ў Вілейцы ў 2013 і 2016 гадах. Тады ў іх удзельнічалі студэнты аддзялення скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Іх працы былі навучальнымі. Сёння творы ўдзельнікаў мінулых пленэраў можна пабачыць у розных месцах горада.

Віллянін хутар упрыгожвае барэльеф "Вілляна", серыя скульптур ля цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, кампазіцыя "Маладая сям'я" ля ЗАГСа, скульптура, прысвечаная мастаку **Уладзіславу Страмінскаму** ля кінатэатра "Мір".

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На вілейскім хлебазаводзе працаваў студэнцкі атрад

ВІЛЕЙКА

Першы сёлета маладзевы атрад закончыў сваю работу.

У гэты раз маладыя людзі з атрада "Гаспадар" працавалі на хлебазаводзе. У атрадзе было дзесяць вучняў старэйшых класаў са школ Вілейкі.

Кіраваў школьнікамі навучэнец вілейскага каледжа **Ілля Гіль**.

Пра гэта распавялі ў райвыканкаме.

## На пытанні адкажа старшыня райвыканкама

ВАЛОЖЫН

5 жніўня ў Валожыне зладзяць "прамую лінію" са старшынёй райвыканкама **Мікалаем Астрэйкам**.

З пытаннямі і праблемамі можна звяртацца ад 9:00 да 12:00 па тэлефоне 8 (01772) **55241**.

Пра гэта расказалі ў прыёмнай райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

## Шматдзетныя і маладыя сем'і атрымаюць фінансавую падтрымку на будаўніцтва жылля

2 жніўня Прэзідэнт падпісаў Указ, які дае права шматдзетным сем'ям атрымаць дзяржпадтрымку для будаўніцтва жылля.

Згодна з Указам, сем'і, якія заключылі крэдытныя дагаворы на будаўніцтва неільготных крэдытаў да 6 жніўня 2017 года, змогуць скарыстаць фінансавую падтрымку дзяржавы на ўмовах Указа №585 ад 2007 года.

Па інфармацыі ўрада, на дадзеную дзяржпадтрымку могуць разлічваць 2814 маладых і 148 шматдзетных сем'яў.

**Паводле БелТА.**

# Як засцерагчы сябе ад кляшчоў

ВІЛЕЙКА

**У цёплы час года хочацца часцей бываць на свежым паветры. Але, прагульваючыся па лесе, не варта губляць пільнасці.**




У лесе лёгка стаць ахвярай нападу кляшчоў. У апошнія гады сіноптыкі адзначаюць раннюю вясну. Адпаведна і актывізацыя кляшчоў пачынаецца рана. Небяспечныя насякомыя прачынаюцца, калі дзённыя тэмпературы паднімаюцца вышэй за пяць градусаў цяпла.

### Кляшчы: у чым небяспека

Чым жа небяспечныя кляшчы? Паводле статыстыкі, амаль кожны дзясяты з іх можа пры ўкусе перадаваць інфекцыі. У тым ліку насякомыя выклікаюць такія сур'ёзныя захворванні, як вірусны клешчавы энцэфаліт і Лайм-барэліёз.

Летась і сёлета на тэрыторыі Вілейскага раёна выпадкаў клешчавога энцэфаліту не рэгістравалася.

> **А вось хворыя на Лайм-барэліёз былі: адзін у 2016 годзе, і адзін – ужо ў 2017 годзе.**

Часта думаюць, што "падчапіць" заражанага кляшча можна толькі ў лесе. Аднак гэта не так. Сустракаюцца яны і ў парку, і ў гарадскіх скверах, і на лецішчах.

Часта кляшчы нападаюць проста на садовым участку. Бо жывуць гэтыя "кусакі" не на дрэвах, як лічаць некаторыя, а ў высокай траве і на хмызняках.

### Дрэс-код, які засцерагае ад кляшчоў

Кляшчы доўга выбіраюць зручнае месца на целе, каб прысмактацца. Таму так важны "дрэс-код". Каб прадухіліць запаўзанне кляшчоў пад адзенне і іх прысмоктванне да цела, варта выбіраць курткі і кашулі з доўгімі рукавамі і шчыльна прылеглымі манжэтамі.

Штаны варта запраўляць у шкарпэткі, не забываць пра галаўны ўбор. Лепш апрануць аднатоннае адзенне. На ім кляшчы бачныя выразней.

I, вядома, не абысціся без рэпелентаў – спецыяльных сродкаў, якія наносяць на адзенне. Гэта адпуджвае кляшчоў і зніжае рызыку ўкусу.

Таксама неабходна аглядаць сваё адзенне і скурныя пакровы кожныя паўтары-дзве гадзіны ў час знаходжання ў лесе, скверы, на садовым участку, каб заўважыць кляшчоў.

Варта ўважліва агледзець вопратку і пасля вяртання з лесу.

Не забудзьцеся таксама агледзець жывёл, якія былі з вамі, асабістыя рэчы, сабраны букет, грыбы і ягады.

### Прышчапіцца, прыбраць у двары, скасіць траву

Ад клешчавога энцэфаліту можна абараніцца з дапамогай прышчэпкі, супраць хваробы Лайма вакцыну, на жаль, пакуль не распрацавалі.

Імунізацыя супраць клешчавога энцэфаліту ў абавязковым парадку неабходная людзям, прафесійная дзейнасць якіх ажыццяўляецца на тэрыторыі прыродных ачагоў дадзенай інфекцыі. Для правядзення імунізацыі неабходна звяртацца ў паліклініку па месцы жыхарства.

Комплекс прафілактычных мерапрыемстваў уключае ў сябе таксама належнае ўтрыманне тэрыторый. Неабходна своечасова скошваць траву, пустазелле на прысядзібных участках, вывазіць іх ад смецця.

Калі вы заўважыце кляшчоў на прысядзібным участку, можна апрацаваць траву і кусты інсектыцыдамі. Але змагацца аднаму – справа небяспечная і нічога нявартая.

### Што рабіць, калі клешч прысмактаўся

Самы эфектыўны метад знішчэння кляшчоў – гэта правядзенне дэзінсекцыйных работ з ужываннем адмысловых прэпаратаў.

Спецыялісты тэрытарыяльнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праводзяць кансультацыі, мерапрыемствы па знішчэнні кляшчоў на платнай аснове, апрацоўваюць прыватныя ўчасткі грамадзян і тэрыторыі прадпрыемстваў.

Як жа ўсё-ткі дзейнічаць у выпадку прысмоктвання кляшча?

Насякомае варта як мага хутчэй выдаліць, лепш за ўсё – у медыцынскай установе. Пасля яго выдалення неабходна абавязкова звярнуцца ў паліклініку па месцы жыхарства да доктара-інфекцыяніста або тэрапеўта, педыятра для прызначэння прафілактычнага лячэння і ўстанаўлення медыцынскага назірання.

> **Чым раней пачнецца лячэнне, тым яно больш эфектыўна папярэдзіць развіццё клешчавых інфекцый.**

Пры жаданні можна правесці даследаванне кляшча на Лайм-барэліёз ў мікрабіялагічнай лабараторыі.

**Кацярына КОЛЕСЕНЬ,**
**доктар-эпідэміёлаг Вілейскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

**Даведка РГ. Лайм-барэліёз** – распаўсюджаная хвароба, якую перадаюць кляшчы. На ранняй стадыі – гарачка, галаўны боль, стомленасць і сып на скуры. У некаторых выпадках церпяць суставы, сэрца, нервовая сістэма, вочы. Сыход хваробы залежыць ад своечасовага лячэння. Калі лячэнне пачаць позна, хвароба можа стаць хранічнай, прывесці да інваліднасці або смерці. Назву хвароба атрымала ад невялікага амерыканскага горада Лайм, дзе зарэгістравалі яе першыя выпадкі.

**Клешчавы энцэфаліт** – прыродная вірусная інфекцыя. Характарызуецца ліхаманкай, аслабленнем арганізма, паражэннем галаўнога мозга. Заражэнне можа прывесці да неўралагічных і псіхіятрычных ускладненняў.



У Калінінградзе прыгатавалі салату вагой 488 кілаграмаў і даўжынёй 11 метраў. Фота з сайта povarenok.ru

# Як пралетарская прыдумка стала хітом застолляў на паўстагоддзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Мы ўсе любім святы.**

Святкуем 100-годдзе з дня нараджэння каго-небудзь з пісьменнікаў ці артыстаў, адзначаем Новы год ці Дзень узяцця Бастыліі, не забываем віншаваць адзін аднаго з Днём будаўніка, прадаўца, цырульніка…

Калі вам усё яшчэ мала святаў, трымайце яшчэ адно. Прыкладна ў гэтыя дні спаўняецца 100 год салаце "Селядзец пад шубай". І паўстагоддзя з таго дня, калі "шуба" з'явілася на сталах беларусаў.

Пра тое, як "Селядзец пад шубай" з'явіўся на сталах у Валожынскім раёне, расказала мясцовая жыхарка **Марыя Кулік**.

– Гэта дакладна быў 1968 год. Нас запрасілі на вяселле. І вось на сталах, акрамя традыцыйных страў, стаяла нешта ружовае. Нявеста тады кажа: "Частуйцеся, гэта новая салата". Пры гэтым афармленая салата была так.

**У талерцы з- пад гэтай самай "шубы" зверху выглядала галава селядца, знізу – хвост. Не адразу адважыліся пакаштаваць. Чамусьці думалі, што пад нізам цэлы селядзец.**

Узялі, з'елі, спадабалася так, што шмат гадоў салата "Селядзец пад шубай" быў хітом усіх застолляў. Толькі цяпер пачалі казаць, што "шуба" – гэта "адстой".

А ў кулінарных кнігах і меню рэстаранаў гэта салата з'явілася прыкладна ў 1918 годзе, пішуць інтэрнэт-рэсурсы.

## ШУБА – гэта не футра, гэта абрэвіятура

Аўтарам салаты прынята лічыць **Анастаса Багамілава** – гаспадара маскоўскай карчмы.

У няпросты рэвалюцыйны час наведнікі яго карчмы часта напіваліся, пачыналі спрачацца пра лёс Радзімы. І, вядома, у такіх гарачых спрэчках не абыходзілася без боек.

Тады Анастасу прыйшла геніяльная думка аб стварэнні народнай салаты, якая стала б добрай сытнай закускай і, адначасова, сімвалам народнага аб'яднання.

Галоўным інгрэдыентам салаты стаў, вядома ж, селядзец – любімы ласунак пралетарыяў. Да селядца дадавалася сялянская цыбуля і бульба з морквай, а зверху, як чырвоны пралетарскі сцяг, ляжаў пласт цёртых буракоў.

Каб не забываць пра ворагаў Саветаў, салата была шчодра запраўленая "заходніцкім маянэзам".

Назву цудоўнай закусцы Анастас даў такі: "Шавінізму і Заняпаду (Упадку) – Байкот і Анафема", або, па тагачаснай рэвалюцыйнай модзе карыстацца разнастайнымі абрэвіятурамі, проста "Ш.У.Б.А.".

Мінуў рэвалюцыйны час, забыліся модныя абрэвіятуры, а назва салаты захавалася, як "Селядзец пад шубай". Бо пласты бульбы, морквы, буракоў былі сапраўды падобныя на шубу.

## Класічныя і модныя рэцэпты "шубы"

З прыгатаваннем першых салатаў было, канешне, марокі больш. Тады ж і буракі трэба было адварваць, гатовыя ў краме не прадаваліся, ды і селядзец спачатку трэба было пачысціць, бо пра гатовае філе з вакуумнай упакоўцы можна было толькі марыць.

Класічны рэцэпт, мяркуем, вядомы ўсім. А вось мы вам прапануем пакаштаваць салату, якую можна назваць "Селядзец у новай шубе". Для гэтага дастаткова адзін пласт зрабіць з авакада ці з яблыка. І новы смак салаце гарантаваны.

Яшчэ ёсць варыянт прыгатаваць селядзец. Для гэтага на філе селядца выкласці ўсе інгрэдыенты: яйка, моркву, цыбулю, бульбу і буракі, а затым завярнуць гэта ў рулет з селядца. Паставіць на гадзіну-другую ў холад, а затым парэзаць на порцыі.

Таксама можна рабіць такую салату "па-багатаму". Замест селядца пакласці ніжнім пластом чырвоную рыбу. Ёсць яшчэ "летні" варыянт гэтай стравы. Замест буракоў на верхні "пралетарска-чырвоны" пласт пакрышыць свежыя памідоры.

## Дзе купіць ружовы маянэз?

Магчыма, не адна страва ніколі не станавілася такім аб'ектам анекдотаў і баек, як "Селядзец пад шубай".

Самы класічны з анекдотаў, вядома, пра ружовы маянэз.

*Бландзінка пытаецца ў магазіне:*

*– А ў вас ёсць ружовенькі маянэз для "шубы". Эх, усе магазіны абышла, нідзе няма.*

І вось яшчэ падборачка для добрага настрою і апетыту:

***

*– Дарагі, я хачу на дзень народзінаў шубу…*

*– Ах, ты ж мая гаспадынька. Чысці буракі, я ў краму за селядцом.*

***

*У рэстаране:*

*– Чаму ў маёй салаце крывы селядзец?*

*– На павароце зваліў.*

***

*Сустракаюцца два сябра пасля арміі.*

*Адзін кажа:*

*– Я ўчора ў гасцях быў, селядзец пад шубай еў.*

*– Так, людзі не мяняюцца. Бо ты і ў войску хлеб пад коўдрай жор!*

**P.S.** Прызнайцеся, у вас сёння на вячэру "Селядзец пад шубай"?

**Наталля ТУР.**







Варыянты афармлення любімай салаты: можна выкласці ў форме мульцяшнага персанажу, а можна аформіць як сапраўдную шубу.



Фота забяспечанае Аляксандрам САЛАГУБАМ.

Пётр і Ганна Крамкоўскія ў Алесе (Францыя), 1933 год.

## Жыхар Маладзечна шукае сваякоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Пішу ў "Рэгіянальную газету", каб адшукаць сваіх блізкіх, знаёмых, родных, сваякоў.**

Хачу знайсці нашчадкаў **Крамкоўскай** (па мужу) **Ганны Аляксандраўны**. Яна нарадзілася прыкладна ў 1908 годзе на станцыі Княгінін. Сваякі ласкава называлі яе Анцяй.

У пачатку 1930-х гадоў, тады яшчэ пры Польшчы, яна з'ехала ў Францыю, у горад Алес. Магчыма, там і выйшла замуж за Пятра Крамкоўскага.

Ён нарадзіўся прыкладна ў 1905 годзе. Родам быў са Слоніма. Прыкладна ў гэты ж час, што і Ганна, таксама паехаў на шахты, каб падзарабіць.

Пара на здымку – Ганна і Пётр Крамкоўскія. Здымак зроблены ў 1933 годзе ў Францыі, у горадзе Алес, дзе яны жылі.

1 студзеня 1943 года ў Крамкоўскіх нарадзіўся сын. Па-французску хлопчыка звалі **Жан**, а па-славянску **Іван**.

Наступны здымак зроблены значна пазней – у 1965 годзе ў Данецку. На ім Анця, Пётр, іх нявестка **Валянціна** і дарослы сын Іван трымае на руках свайго першынца. Іван на той час ужо быў музыкантам-баяністам Каспійскай флатыліі.

Іван Крамкоўскі аднойчы прыязджаў у Беларусь. Заязджаў на радзіму маці, у Княгінін. Быў у гасцях і ў нашай сям'і ў Маладзечне.

Наколькі я ведаю, уся сям'я Крамкоўскіх засталася жыць у Данецку на Данбасе. Іванавым сынам ужо недзе ў межах 50-55 гадоў.

Ведаю, што Пётр і Анця ў Данбас на пастаяннае месца жыхарства пераехалі ў 1947 годзе. Так атрымалася, што ў іх ні разу за ўсё жыццё не было магчымасці наведаць родныя мясціны ў Беларусі.

Я ўжо ў сталым узросце. Вельмі хацелася б скантактавацца з кім-небудзь з Крамкоўскіх. Гэта мае блізкія сваякі.

Хачу, каб яны адгукнуліся на мой адрас:

**Аляксандр САЛАГУБ,**
**Вялікі Гасцінец, 157-41**
**222302, Маладзечна-2,**
**Мінская вобласць.**



Фота забяспечанае Аляксандрам САЛАГУБАМ.

Ганна, Пётр, Валянціна, Іван (з сынам) Крамкоўскія ў Данецку, прыкладна 1965 год.



Фота забяспечанае Міколам ЛІННІКАМ.

Мікола Ліннік (у цэнтры) з удзельнікамі адкрыцця выставы ў Плябані.

# Выставу Міколы Лінніка адчынілі ў Плябані

МАЛАДЗЕЧНА

У цэнтры традыцыйнай культуры і побыту ў вёсцы Плябань на Маладзечаншчыне 19 ліпеня адбылася прэзентацыя фотавыставы "Жыве імя Купалы".

Выставу зладзілі ў межах святочных мерапрыемстваў, прысвечаных 135-годдзю паэта. Аўтар фотаздымкаў – фатограф **Мікола Ліннік**.

### На стварэнне купалаўскай выставы натхніў Тарас Шаўчэнка

На прэзентацыі супрацоўніца Цэнтра традыцыйнай культуры **Любоў Шчэрбач** расказала аб творчасці Міколы Лінніка. Яна ўзгадала, што гэта яго другая выстава ў цэнтры. Летась тут дэманстравалі фотаздымкі, дзе была адлюстраваная прыгажосць нашай радзімы.

Пра ідэю стварэння фотаздымкаў расказаў сам фотамастак.

Так атрымалася, што на стварэнне выставы яго натхніў вобраз іншага класіка, толькі ўкраінскага.

Напрыканцы 2009 года ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адкрылі фотавыставу, прысвечаную юбілею **Тараса Шаўчэнкі**. На сотні фотаздымкаў паказвалі помнікі Кабзара ў розных краінах свету.

Прычым, па словах Міколы Лінніка, помнікі здымаліся ў рэаліях – без усялякай папярэдняй падрыхтоўкі і наступнай апрацоўкі.

– На фотаздымках было бачна, – прыгадвае спадар Мікола, – з якой цеплынёй і павагай адносяцца ўкраінцы да свайго нацыянальнага генія.

І вось тады Мікола Ліннік падумаў: "Вось каб і беларусы так адносіліся да Янкі Купалы!"

Фатограф лічыць, што **Янка Купала** – гэта святое імя для Беларусі і беларусаў.

### Вуліца Янкі Купалы даўжынёй у адзін дом

Каб здзейсніць задуму, што з'явілася восем год таму, фотамастак, бываючы ў розных кутках Беларусі, пачаў фатаграфаваць помнікі песняру, вуліцы і ўстановы, якім нададзенае імя Янкі Купалы.

Так і атрымалася гэтая выстава. Працуючы над яе стварэннем, фатограф зрабіў для сябе не вельмі суцяшальны вынік.

Па яго назіраннях, аказалася, што часам шануем мы свайго песняра толькі фармальна. Напрыклад, у Лідзе ёсць вуліца Янкі Купалы. Здаецца, гэта добра. Але, па словах фатографа, яна складаецца з... аднаго дома.

Прычым гэты дом – гарадскі Дом культуры з адрасам Янкі Купалы, 1. Але шыльды з назвай вуліцы няма, зазначае спадар Мікола. Як няма і самой вуліцы. Па словах майго суразмоўцы, яе зліквідавалі пры падрыхтоўцы да свята "Дажынак" у 2010 годзе.

### Ёсць Купала і ў Маскве

У добрым сэнсе ўразіў Міколу Лінніка помнік Янку Купалу, усталяваны ў Маскве на Кутузаўскім праспекце.

Цікава, што недалёка ад помніка беларускаму класіку ў Маскве ідзе набярэжная, названая ў гонар украінскага класіка Тараса Шаўчэнкі.

На фотавыставе сорак фотаздымкаў, прысвечаных песняру. Выстава складаецца з двух раздзелаў.

У першым – здымкі мясцін і падзей, звязаных з імем Янкі Купалы. У другім – працы, якія паказваюць, як жыве імя класіка цяпер. Паміж гэтымі раздзеламі – партрэт Янкі Купалы.

Некаторыя фотаздымкі дапоўненыя вершаванымі радкамі **Аляксея Пысіна**, **Віктара Шніпа**, **Вольгі Шпакевіч** і **Рэгіны Багамол**.

Паэтка Вольга Шпакевіч была на адкрыцці і чытала свае вершы.

Прагучаў твор і самога песняра. Урывак з паэмы Янкі Купалы "Курган" прачытала **Алена Асіпенка**.

### На фотаздымках – Валожын, Радашкавічы, Масква

На выставе ёсць фота трох мінскіх устаноў, дзе вельмі шмат робяць для захавання спадчыны паэта і памяці пра яго. Гэта музей Янкі Купалы, тэатр імя Янкі Купалы і цэнтральная бібліятэка ў Мінску яго імя.

Нездарма сярод гасцей была супрацоўніца цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Мінску **Святлана Чабатар**. Яна расказала пра гісторыю купалаўскай бібліятэкі, якая пачынаецца ад 1949 года, і аб працы ўстановы ў юбілейны для класіка год.

Уражаннямі ад выставы падзяліліся дырэктар Цэнтра традыцыйнай культуры **Ала Ліхтаровіч** і паэтка **Яўгенія Бандаронак**. Яны адзначылі, што выстава не толькі цікавая сваімі фотаздымкамі, але і вельмі інфармацыйная. Яна дазваляе гледачам пабываць у Мінску, Гродне, Валожыне, Лідзе, Асіповічах, Мазыры, Радашкавічах, Маскве.

Фотаздымкі ўжо выстаўляліся ў цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў Мінску, у Валожынскім раённым краязнаўчым музеі.

У Плябані выстава будзе працаваць да кастрычніка.



**Аксана ЯРАШОНАК**
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)



Фота lit-bel.org

**Даведка РГ. Мікола Ліннік** – нарадзіўся ў 1954 годзе на Валожыншчыне ў вёсцы Порычы. Доўгі час жыў і працаваў у Радашкавічах. Радыёінжынер. Фатаграфіяй і журналістыкай займаецца больш за пяцьдзясят гадоў.

МЕРКАВАННЕ

# Мы пражылі жыццё не так, як нам абяцалі. Чытаючы Нобелеўскага лаўрэата

## Нам прыйдзецца яшчэ доўга выціскаць з сябе назапашаны бруд саўка і канфарміста

*Заканчэнне. Пачатак у №№28, 29, 30*

**Чытаючы або слухаючы пра партызанскі рух у Беларусі, даўно задумваўся, чаму ў партызанах было так мала яўрэяў? Немцы іх заганялі сотнямі, тысячамі ў гета. Чаму маладых і здаровых не забіралі ў партызанскія атрады?**


Фота kp.by.

Святлана Алексіевіч.

Чаму і сёння на помніках, што стаяць у многіх мястэчках Беларусі, няма прозвішчаў загінулых яўрэяў? Гэта ж людзі, яны там жылі і ёсць у архівах спісы ўсіх загінулых па кожнай вёсцы, якія складалі камісіі адразу пасля вызвалення вёсак і гарадоў ад немцаў. Зноў адказ знайшоў у гэтай кніжцы.

### Яўрэя за пуд мукі

Успамін аднаго яўрэя-партызана: "Сотні яўрэяў, што збеглі з гета, бадзяліся па лесе. Сяляне лавілі іх, выдавалі немцам за пуд мукі, за кілаграм цукру. Напішыце… Я доўга маўчаў… Яўрэй усё жыццё чагось баіцца… Першая парада дзядзькі Яшы ў партызанскім атрадзе – памяняй прозвішча… Другая парада – маўчы. А то атрымаеш кулю ў спіну. За яўрэя ніхто адказваць не будзе. Так яно і было.

У партызанскіх камандзіраў былі сакрэтныя інструкцыі з Масквы: яўрэям не даваряць, у атрады не браць, знішчаць. Нас лічылі здраднікамі.

Была ў нашым атрадзе **Розачка**, прыгожая яўрэйская дзяўчынка… Шаснаццаць гадоў. Камандзіры спалі з ёй па чарзе.

**Розачка зацяжарала. Адвялі далёка ў лес і прыстрэлілі, як сабачку.**

А мы здзіўляліся, чаму многа яўрэяў з'ехала пасля вайны з Беларусі ў іншыя краіны. Цяпер толькі ў Ізраілі жыве каля 200 тысяч яўрэяў, выхадцаў з Беларусі. А хутка будзем прымаць кітайцаў, сірыйцаў і іншых".

Цікавы і трагічны ўспамін асадніцы **Марыі Вайцяшонак**, у чым жа яны былі вінаватыя перад дзяржавай? А такіх, паводле афіцыйнай статыстыкі, ад 1940 да 1952 года было дэпартавана 138 882 чалавекі, а як піша гісторык **Ігар Кузняцоў** – 244 500 чалавек.

### План на расстрэлы – як на заводзе

Перыяд перабудовы і развалу СССР лічыцца мірным. Так, вялікай грамадзянскай вайны не было, але колькі тысяч людзей загінула з-за міжрэлігійных, нацыянальных, карупцыйных і іншых матываў. Як цяжка было пры развале СССР уцякаць рускім, савецкім інтэрнацыяналістам з сярэднеазіяцкіх і каўказскіх рэспублік.

Упершыню прачытаў аповед карніка-мясніка. Людзей забіваў, як скаціну. Ад страляніны з пісталета ў галовы людзей "рука пад канец змены вісела, як бізун… У нас таксама быў план… Як на заводзе".

Пасля такой працы да яго нават аўчарка не падыходзіла, а жонка, відаць, абдымала…

**"У вайну эканомілі патроны. Набівалі баржу, як бочку селядцоў… Рукі кожнаму звязвалі провадам, ну а да ног – камень. Вечарам варочаемся – баржы пустыя. Мёртвая цішыня".**


Фота arhivach.org.

Чэкіст са значком "Варашылаўскі стралок".

Вось такія карнікі атрымалі вялікія пенсіі, дажылі да смерці і нікому не расказвалі, нават родным, пра свае "геройствы". "ВЧК, НКВД, КГБ" свае зверствы хаваць умелі.

### З кніг Алексіевіч будзем рабіць высновы

Святлане Алексіевіч далі Нобелеўскую прэмію. Але афіцыйна з гэтай нагоды ў Беларусі яе па-людску не павіншавалі, ніякай афіцыйнай сустрэчы не арганізавалі.

Вельмі патрэбная справа зробленая пісьменніцай, дасканала і таленавіта. Дэмакратычная частка народа будзе яе доўга помніць, рабіць правільныя высновы з жыцця, выціскаць з сябе назапашаную гразь саўка і канфарміста.

Ужо выдадзена ў розных краінах больш за 125 яе кніжак на розных мовах свету. Усе народы іх чытаюць. А на беларускай мове яе кнігі трэба шукаць са свечкай.

**Леў ЧЫРВОНЦАЎ,**
**Маладзечна.**

КАЛЯНДАР

### 4 ЖНІЎНЯ

**100 гадоў** з дня нараджэння **Янкі Брыля** (1917 – 2006), народнага пісьменніка Беларусі, перакладчыка, публіцыста, ганаровага члена НАН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа. Унікальнай у сусветнай літаратуры стала створаная ім разам з А.Адамовічам і У.Калеснікам дакументальная аповесць "Я з вогненнай вёскі…" (1975) – жудасныя ўспаміны ўцалелых жыхароў спаленых вёсак Беларусі, жорсткая праўда пра вайну. Класікай беларускай літаратуры стала яго апавяданне "Маці". У пачатку 1960-х з'явіўся ў друку вядомы раман "Птушкі і гнёзды" – адзін з самых аўтабіяграфічных твораў пісьменніка, які сам аўтар назваў "кнігай адной маладосці". Яму належаць такія мудрыя словы: "Калі б беларуса прымусіць быць беларусам, які б атрымаўся выдатны беларус!"

**95 гадоў** назад (1922) Прэзідыум ЦВК БССР прыняў пастанову аб стварэнні Цэнтральнага архіва БССР (Цэнтрархіў БССР).

### 5 ЖНІЎНЯ

**1772 год.** Прынятая Пецярбургская канвенцыя, паводле якой адбыўся першы тэрытарыяльны падзел Рэчы Паспалітай, першы з трох падзелаў, пасля якіх Рэч Паспалітая знікла з палітычнай карты Еўропы. Аўстрыя атрымала ўсю паўднёвую Польшчу да Збруча са Львовам, але без Кракава (83 тыс. км² з 2,65 млн чал.). Прусія анексавала Вармію і Гданьскае Памор'е, але без Гданьска і Торуні (36 тыс. км² з 580 тыс. чал.). Расія заняла Інфлянты і ўсходнія ўскраіны Рэчы Паспалітай за Дняпром, Друццю і Дзвіной (92 тыс. км² з 1,3 млн. чал.).

**110 гадоў** з дня нараджэння Эдуарда Самуйлёнка (1907 – 1939), беларускага пісьменніка, драматурга.

### 6 ЖНІЎНЯ

**500 гадоў** назад (1517) **Францыск Скарына** ў Празе выдаў першую кнігу Бібліі – першую беларускую і ўсходнеславянскую друкаваную кнігу.

### 7 ЖНІЎНЯ

**85 гадоў** з дня нараджэння (1932) **Адама Мальдзіса**, беларускага літаратуразнаўца, крытыка, празаіка, публіцыста, дзяржаўнага дзеяча, сябра нашай газеты.

### 8 ЖНІЎНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння **Аркадзя Чарнышэвіча** (1912 – 1967), беларускага пісьменніка.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Дыскутавалі аб культурным асяроддзі Смаргоншчыны

СМАРГОНЬ

**31 ліпеня ў Смаргоні супрацоўнікі цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва і грамадская культурніцкая кампанія “Будзьма беларусамі!” разам з Цэнтрам даследавання грамадскага кіравання “СІМПА” зладзілі адкрытую дыскусію ў Смаргоні.**

Сустрэча “Культурніцкая прастора Смаргоні і Залесся: што ёсць і чаго хочацца?” прайшла ў канферэнц-зале аб’яднання інвалідаў “Жыццё без межаў”.

У якасці спікераў выступілі: **Дар’я Ліс**, мясцовая жыхарка, пісьменніца, рэдактарка сайта zalesse.by; **Андрэй Эзерын**, піяр-менеджар, спецыяліст па камунікацыі:; **Людміла Скрадаль**, экскурсавод. Правяла дыскусію **Хрысціна Марчук**, журналістка, культурніцкі менеджар, каардынатарка кампаніі “Будзьма беларусамі!” па Гродзенскім рэгіёне.

### Дар’я Ліс: культурніцкае жыццё ў Залессі віруе

Дар’я Ліс, якая пастаянна жыве ў Залессі, распавяла пра культурніцкае жыццё паселішча:

– Часам здаецца, што культурніцкае жыццё ў Залессі непадалёк ад Смаргоні віруе, – лічыць Даша. – Тут, у Доме культуры, музеі-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага, у школе праходзяць фестывалі, выставы, імпрэзы. Вязаныя парасонікі, саламяныя вырабы, распрацаваныя мясцовымі майстрыхамі, могуць стаць выдатнымі падарункамі і сувенірамі.

Аднак, па назіраннях Дашы, не кожная імпрэза збірае многа мясцовых жыхароў. Гэтаму можна прывесці некалькі прычын. Па-першае, не хапае рэкламы, анонсаў на сайтах і ў СМІ.

Па-другое, шмат часу, сіл і грошай забірае вядзенне сваёй гаспадаркі. Ды і асяроддзе музеяў мусіць быць безбар’ерным для людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі.

Напрыклад, ёсць пандус на ўваходзе, а на выездзе – высокі парог.

– Таму калі я запрашаю ў Залессе сваіх сяброў-вазочнікаў, – падзялілася Дар’я, – то магу іх толькі папярэдзіць пра некаторыя цяжкасці нават па дарозе да цікавых мясцінаў. Абавязкова патрэбная прысутнасць сябра з моцнымі рукамі.

Асяроддзе, якое ад пачатку маркуецца як безбар’ернае, не заўсёды адпавядае ўсім неабходным патрабаванням. І гэта не толькі пандусы, нязручныя лесвіцы і перашкоды, што ствараюць цяжкасці для вазочнікаў, але і негатоўнасць экскурсаводаў наладзіць патрэбную камунікацыю.

### Ці можна рэкламаваць мастацтва?

Удзельнікі сышліся на тым, што, каб прыцягнуць людзей да культурных мерапрыемстваў, варта пазбягаць “партызанскага” іміджу, не ствараць уражання, што гэта падзея толькі для “сваіх”.

Таму варта шырэй анансаваць яе праз мясцовыя СМІ, сацыяльныя сеткі, ды і, як паказвае практыка, усё яшчэ спрацоўвае дзедаўскі шлях з развешваннем аб’яў на слупах.

– Напрыклад, у музеі ў Залессі была выстава **Аляксандра Грышкевіча**, я лічу яго выдатным мастаком сучаснасці не толькі на ўзроўні Беларусі, – далучаецца да размовы пісьменніца жыхарка Смаргоні **Таня Скарынкіна**. – Ён родам з Маладзечна, жыве ў Мінску.

> **Я пешкі пайшла б у Залессе са Смаргоні, калі б ведала пра імпрэзу, бо даўно хацела з ім пазнаёміцца, падзялілася пісьменніца.**

Але, па словах Таццяны, ніякай аб’явы напярэдадні яна не пабачыла, ды і фота з адкрыцця не парадавалі вялікай колькасцю гасцей.

Пытанне мэтазгоднасці рэклам на слупах выклікала хвалю абурэння ў зале: маўляў, ці можна высокае мастацтва рэкламаваць такімі нізкім шляхам. Ці не пакрыўдзіць гэта самога творцу?

Абмеркаванне выйшла за межы дыскусіі ў зале, мела працяг у сацыяльных сетках. Аказалася, што і сам мастак Грышкевіч, і іншыя творцы не супраць, каб іх выставы рэкламаваліся, хай сабе і на слупах – гэта ж інфармаванне, што ўжо пашырае кола патэнцыйных наведнікаў.

**Паводле budzma.by.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ-ЯПОНІЯ

# Тры японскія сям’і адпачывалі ў “Надзеі”



Японцаў сустракаюць у “Надзеі” хлебам-соллю.

ВІЛЕЙКА

**Увечары 26 ліпеня супрацоўнікі дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтра “Надзея”, што на Вілейшчыне, з хлебам-соллю сустрэлі гасцей з Японіі.**

Ад гэтага дня і да 2 жніўня ў цэнтры адпачывалі тры японскія сям’і. Яны прыехалі з прэфектуры Факусіма.

### Беларусы і японцы адпачываюць разам

Жывуць госці недалёка ад атамнай электрастанцыі. А ў “Надзею” прыехалі, каб адпачыць і паправіць здароўе.

Разам з японскімі сям’ямі ў дзіцячы цэнтр прыехалі і чатыры беларускія сям’і, якія пацярпелі ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

У мамаў з беларускіх сямей з Японіяй даўнія сувязі.

Яшчэ дзяўчынкамі яны прыязджалі адпачываць у “Надзею” ў межах праекта, які фінансаваў Чарнобыльскі дзіцячы фонд Японіі з Токіа.

### Руічы Хіракава: зносіны дапамогуць перажыць наступствы катастроф

Суправаджае беларускія і японскія сем’і спадар **Руічы Хіракава**. Ён стварыў у Японіі Чарнобыльскі дзіцячы фонд і доўгі час быў яго старшынёй.

Цяпер Руічы Хіракава – дырэктар дзіцячага санаторыя Кумі на Сата ў прэфектуры Акінава, што знаходзіцца на поўдні Японіі.

Гэты японскі санаторый створаны і працуе па прыкладзе дзіцячага цэнтра “Надзея”. Тут адпачываюць і папраўляюць здароўе дзеці, якія пацярпелі падчас катастрофы на Факусімскай атамнай электрастанцыі.

Па словах спадара Хіракавы, гэта паездка вельмі важная і для яго, і для трох японскіх сямей. Бо асноўная мэта прыезду – знаёмства, зносіны і баўленне часу з беларускімі сем’ямі.

Для беларусаў і японцаў супрацоўнікі “Надзеі” зладзілі сумесны адпачынак. Падчас яго ў жыхароў гэтых краін была магчымасць абмяняцца ўражаннямі, асабістым досведам.

> **На думку спадара Руічы Хіракавы, такія зносіны дапамагаюць перажыць наступствы падобнай катастрофы.**

Сам Руічы Хіракава з Беларуссю знаёмы даўно. Больш за дзесяцігоддзе таму ў Мінску і Гомелі ладзіліся яго фотавыставы, прысвечаныя тэме Чарнобыля. За сваю дзейнасць ён мае ордэн Францыска Скарыны.



Японская сям’я ў “Надзеі”.

### Вілейшчыну пакажуць па японскім тэлебачанні

Сярод замежных гасцей ёсць таксама тры прадстаўнікі буйнейшай японскай тэлерадыёкампаніі NHK.

Спецыялісты тэлебачання наведалі цэнтр для таго, каб зняць перадачу пра метады аздараўлення ў Беларусі, у прыватнасці ў “Надзеі”. Пасля японская аўдыторыя зможа пазнаёміцца з досведам беларусаў у аздараўленні дзяцей пасля катастрофы.

Па словах **Таццяны Майсак**, спецыяліста па сувязях з грамадскасцю дзіцячага цэнтра, у японскіх і беларускіх сямей была вельмі насычаная праграма. У іх шмат сумесных мерапрыемстваў, сустрэч і інтэрв’ю.

Ужо на заўтра пасля прыезду, 27 ліпеня, зладзілі сустрэчу-інтэрв’ю сямей з **Іванам Кенікам**. У пачатку 1990-х ён быў старшынёй Савета Міністраў БССР. А ад 1995 года стаў міністрам па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай электрастанцыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота Жанны ГОРБАНЬ.**

# На Смаргоншчыне археолагі знайшлі старажытны горад Крэва

СМАРГОНЬ

**Крэва – адзін з ранніх гарадоў старажытнай Літвы з тых, што існавалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі прыкладна ў дзясятым-трынаццатым стагоддзях.**

У гэтым пераканалі навукоўцаў сёлетнія раскопкі старажытнага гарадзішча ў Крэве.

Па словах кіраўніка экспедыцыі, супрацоўніка Акадэміі навук Беларусі **Алега Дзярновіча**, сёлетнія раскопкі сталі своеасаблівым спалучэннем навуковага дзяржаўнага праекта і грамадскай ініцыятывы.

– Сёння ўсё, што датычыцца археалогіі, строга рэгламентавана рознымі дакументамі, – расказаў Алег. – Таму любыя раскопкі павінны праводзіцца пад патранажам Акадэміі навук.

Яе якраз і прадстаўляў Алег. Астатнія ўдзельнікі прысутнічалі тут на валанцёрскіх умовах. Валанцёраў сабралі праз абвесткі ў інтэрнэце, праз фонд "Крэўскі замак". Таму сталі з рыдлёўкамі і здымалі слаі зямлі абсалютна розныя людзі: студэнты, айцішнікі, архітэктары.

Найбольш людзей было з Мінска. Аднак прыязджалі і гродзенцы, і нават жыхары Мазыра.

### На раскопках былі вершы, песні і танцы

Сёлета на раскопках праявіўся і яшчэ адзін від валанцёрства. Аказваецца валанцёрыць з археолагамі – гэта не толькі капаць зямлю рыдлёўкай.

Па вечарах у археалагічны летнік у Крэва прыязджалі творчыя людзі. Тут выступалі барды і пісьменнікі **Зміцер Бартосік** і **Андрэй Хадановіч**, удзельнікі этнаграфічнага клуба "Кола", гурт "Мярэжа".

– Андрэю Хадановічу так спадабалася ў нас, – прыгадвае Алег, – што ён застаўся не на гадзіну, як планаваў, а на тры.

Раскопкі ў знакамітым Крэўскім замку пад кіраўніцтвам Алега Дзярновіча ладзілі ў 2012 годзе. Тады ўскрывалі Княскую вежу.

Капаць на месцы гарадзішча пачалі ў 2013 годзе. Сёлета таксама раскопвалі выключна старажытнае гарадзішча. А яно, мяркуючы па знаходках, старэйшае за замак 14 стагоддзя.

Гарадзішча знаходзіцца ў межах сённяшняга Крэва на вуліцы Смаргонскай на адлегласці каля двух кіламетраў ад замка. Яно абгароджанае. Ёсць спецыяльны знак, які паведамляе, што месца ахоўваецца дзяржавай.

### Гістарычны помнік за агародамі

Гістарычны помнік 10 стагоддзя размясціўся за агародамі сучасных крэўскіх жыхароў. У сваіх гаспадарчых пабудовах яны дазвалялі складаць археолагам інструмент.

Што знайшлі? Знайшлі горад. Так-так, старажытны горад Крэва. Больш сучаснае Крэва ўзнікла ўжо пасля будаўніцтва замка ў 14 стагоддзі. Тады цэнтр паступова перамясціўся туды, а гарадзішча прыйшло ў заняпад.

Менавіта ў тым, старажытным, яшчэ паганскім, горадзе Крэва польскі кароль Ягайла пабудаваў касцёл, каб хрысціць паганцаў.

Даследуючы старажытны горад, навукоўцы прыйшлі да высновы, што ў Крэве 10-13 стагоддзя прадстаўленая ўрбаністычная культура Усходняй Еўропы.

Па словах кіраўніка экспедыцыі, на самім гарадзішчы, падобна, жылі славяне, якія займаліся гандлем і рамёствамі.

Магчыма, у той час Крэва было калоніяй старажытнага славянскага племені – крывічоў. Адсюль, магчыма, паходзіць і назва паселішча.



Радасць ад нечаканай знаходкі. Фота Аляксея ЧУБАТА.



Кіраўнік экспедыцыі Алег Дзярновіч. Фота Аляксея ЧУБАТА.



Паэт, ураджэнец Смаргоншчыны, Уладзімір Някляеў (другі справа) з удзельнікамі экспедыцыі. Фота facebook.com.

### Ювелірныя цікавосткі для крэўскіх прыгажунь

Аб развітых рамёствах сярод старажытных гараджан сведчаць сёлетнія знаходкі. Па словах Алега Дзярновіча, археолагі знайшлі матрыцу для караляў – спецыяльную прыладу, з выкарыстаннем якой выраблялі жаночыя ўпрыгажэнні. Яны былі часткай убору тагачасных гараджанак.

– Таму мы можам казаць пра тое, – працягвае Алег, – што ў нашых продкаў была добра развітая ювелірная вытворчасць.

Пацвярджаюць гэта знойдзеныя кавалкі шкляных бранзалетаў і пацеркі са шкла. Падчас раскопак старажытных курганоў у вёсках шкляных бранзалетаў не знаходзяць.

Самы каштоўны экземпляр гэтага сезона – фрагмент карункавай накладкі, зроблenай з косткі. Праўда, для чаго нашы продкі яе выкарыстоўвалі, невядома.

Яшчэ адна знаходка – аднабаковая манета брактыят. Такія рабілі ў другой палове 13 стагоддзя. Траплялі яны ў Крэва з прускіх гарадоў. Манеты вельмі тонкія, таму сярод археалагічных знаходак сустракаюцца рэдка.

### Знайшлі шмат рэшткаў ганчарнага посуду і косткі старажытнай курыцы

Здымаючы слой за слоем, археолагі натрапілі на печку-котлішча. Побач знайшлі фрагменты глінянага посуду і косткі свойскай птушкі, хутчэй за ўсё, курыцы.

Рэшткаў керамікі на Крэўскім гарадзішчы археолагі заўсёды знаходзяць шмат. Цікава тое, што керамічны посуд рабіўся на ганчарным коле.

Па словах спецыяліста, такі керамічны посуд вызначаюць як славянскі. Даўнія балты не ведалі ганчарнага кола. А між іншым, доўгі час лічылі, што ў старажытным Крэве жылі балты-язычнікі.

### Як Крэва гарэла двойчы

Археолагі зафіксавалі і два вялікія пажары. Ад аднаго старажытнае Крэва пацярпела ў дзясятым стагоддзі, ад другога – у трынаццатым.

Пажар, па словах Алега, лёгка пазнаць па вугальных слаях. А датаваць іх пэўным стагоддзем дапамагаюць знаходкі.

Даследуючы Крэва, мы даследуем старажытную Літву, колішні Ашмянскі павет Віленскага ваяводства, тыя мясціны, што яднала паваенная Маладзечанская вобласць, кажа Алег.

Дзякуючы такім знаходкам археолагі могуць сцвярджаць, што яшчэ да першага князя Вялікага Княства Літоўскага **Міндоўга** на сучаснай тэрыторыі гістарычнай Літвы ўжо былі сапраўдныя гарады, дзе жылі славяне – гандляры і рамеснікі. А кіраваў Міндоўг у другой палове 13 стагоддзя.

Гарадзішчы ў Крэве і Гальшанах – гэта помнікі, вывучаючы якія археолагі могуць убачыць шырокую панараму жыцця Беларусі ў 10-13 стагоддзях.



Касцяная карункавая накладка – самая каштоўная знаходка сёлетняга сезона. Фота facebook.com.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

НАВІНЫ

## "Смаргонь" перамагла "Чысць"

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

Пакуль у чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай і другой лігах перапынак, каманды праводзяць таварыскія матчы. "Смаргонь" у Чысці згуляла з мясцовай камандай, якая займае трэцяе месца ў другой лізе.

Смаргонцы ж ідуць апошнімі ў першай лізе. У апошнім туры першага круга "Смаргонь" прайграла "Хвалі" з Пінска 0:4. А ўвогуле, ад 15 красавіка "Смаргонь" не можа перамагчы ў першай лізе. Тым больш важна было для смаргонцаў дабіцца перамогі хоць у таварыскім матчы.

Першы тайм скончыўся унічыю 0:0. У другім смаргонцаў наперад вывеў **Сяргей Мельнік**. А потым яшчэ адзін гол забіў **Марк Кішкель**. У выніку перамога "Смаргоні" з лікам 2:0.

## У "Смаргоні" з'явіцца варатар з брэсцкага "Дынама"

СМАРГОНЬ

20-гадовы галкіпер "Дынама-Брэст" **Уладзіслаў Хвін** наступны год на правах арэнды правядзе ў складзе футбольнага клуба "Смаргонь". Да пераезду ў Брэст Уладзіслаў выступаў у моладзевых камандах ФК "Мінск", выхаванцам якога і з'яўляецца. У бягучым сезоне Хвін ні разу не з'явіўся на полі ў матчы галоўнай каманды і выступаў пераважна ў дублюючым складзе, паведамляе сайт "Дынама-Брэст".

Тым часам ФК "Смаргонь" скасаваў працоўныя адносіны з нападаючым **Паўлам Дзямідчыкам** па ініцыятыве футбаліста.

## Пятага жніўня маладзечанцы згуляюць з Уздой

МАЛАДЗЕЧНА

Пасля кароткага перапынку распачынаецца другі круг чэмпіяната Беларусі па футболе.

Першы матч другога круга маладзечанцы правядуць дома на гарадскім стадыёне. Прымаць будуць каманду з Узды.

У першым матчы супраць Узды маладзечанцы згулялі з лікам 1:1.

Да другога круга маладзечанцы падышлі, займаючы чацверты радок турнірнай табліцы з 24 ачкамі.

Саступаюць маладзечанцы камандам "ЮАБ – Жыткавічы" (31 ачко), камандзе з Клецка (30 ачкоў) і камандзе з Чысці (29 ачкоў).

**Пачатак сустрэчы ў 18:00.**

## На Аўгустоўскім канале прайшла спартакіяда работнікаў спартыўнай галіны

АШМЯНЫ

На маляўнічым беразе Аўгустоўскага канала, у раёне цэнтральнага шлюза "Дамброўка", прайшла спартакіяда работнікаў фізічнай культуры, спорту і турызму Беларусі.

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел каля 500 прадстаўнікоў спартыўных упраўленняў і ўстаноў.

Вітаючы прысутных, першы намеснік міністра спорту і турызму **Вячаслаў Дурноў** падкрэсліў, што падобныя спартакіяды, якія сталі ўжо традыцыйнымі, аб'ядноўваюць і гуртуюць людзей, умацоўваюць карпаратыўны дух, а таксама дазваляюць прыемна і з карысцю правесці час.

На працягу некалькіх дзён прайшлі спаборніцтвы па паркавым валейболе, балотным футболе, дартсе, стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, а таксама з лука, па тэхніцы велаcіпеднага і воднага турызму, пераадоленні паласы перашкод, шахматах і шашках.

Былі забаўляльныя конкурсы па кіданні бервяна, валёнка, "язьдзе" на мятле, забіванні цвіка на хуткасць, скачках у даўжыню з месца.

Першае месца ў камандным заліку заваявалі прадстаўнікі Віцебскай вобласці.

Іх калегі з Гродзенскай размясціліся на другім месцы, Гомельскай – на трэцім.

Пераможцы і прызёры атрымалі кубкі, медалі, дыпломы, а таксама каштоўныя прызы.

## Ашмянская каманда саступіла ў таварыскім матчы

АШМЯНЫ

Футбольны клуб "Ашмяны-БДУФК" 29 ліпеня правёў у сталіцы таварыскі спарынг з мінскім "Тарпеда". Мінчане былі мацнейшыя – 3:0

**Аддзел інфармацыі.**




Фота Вячаслава ПАТЫША, БФЛА.

У Мядзеле спартсмены бегалі па калена ў вадзе.

# Унікальны "Водны забег" прайшоў у Мядзеле

МЯДЗЕЛ, СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

**У Беларусі 29 ліпеня ўпершыню прайшоў сапраўдны "Водны забег".**

Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі актыўна прасоўвае бегавы рух у масы, арганізоўваючы розныя забегі па ўсёй краіне.

На гэты раз была ідэя правесці першы і ўнікальны ў гісторыі забегаў Беларусі – "Водны забег", траса якога пралягала прама па воднай роўнядзі. Месцам правядзення гэтага незвычайнага спартыўнага спаборніцтва стаў бераг возера Мястра, размешчаны ў адным з маляўнічых месцаў нашай краіны – горадзе Мядзел. Адміністрацыя горада актыўна прымала ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні спаборніцтваў.

Раніца выдалася досыць халаднаватай і пахмурнай, аднак удзельнікаў забегу гэта не спалохала. Першымі выпрабаваць трасу выйшлі самыя юныя ўдзельнікі забегу – дзеткі, якія прыехалі з розных куткоў Беларусі разам з бацькамі. Хлопчыкі і дзяўчынкі ад васьмі год і старэйшыя выйшлі на старт, знаходзячыся на калена ў вадзе, каб пераадолець 100 метраў дыстанцыі ўздоўж берага возера.

Сярод дзяўчынак першае месца заняла **Ульяна Захарава** са Смаргоні, другое – яшчэ адна смаргонка **Мяланння Захарава**. Трэцяй стала **Аляксандра Пехцерава** з Мінска.

Сярод хлопчыкаў пераможцам **Яраслаў Яжэвіч** са Смаргоні. У тройцы прызёраў – **Альберт Рудзевіч** з Гродна і **Яраслаў Іваноўскі** са Смаргоні. Абсалютна кожны ўдзельнік забегу на фінішы атрымаў эксклюзіўны памятны медаль. А пераможцам і прызёрам уручылі грашовыя сертыфікаты ад Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

**Наступнымі на старт выйшлі дзяўчаты. Ім трэба было пераадолець водную дыстанцыю працягласцю ў адзін кіламетр.**

Нашым лэдзі прыйшлося нялёгка, паколькі падчас забегу пачаўся дождж. Аднак ні адна з удзельніц не пакінула дыстанцыю. Наадварот, пры самых складаных умовах надвор'я дзяўчаты былі ў выдатным настроі, цешачы гледачоў і заўзятараў сваімі ўсмешкамі.

Абсалютным лідарам сярод жанчын стала **Таццяна Пехцерава** з Мінска. Яшчэ з пачатку дыстанцыі яна захапіла лідэрства і ўпэўнена прайшла па трасе, захаваўшы яго. Паказала вынік – 9 хвілін 36 секунд. Яшчэ Таццяна з'яўляецца мамай дзвюх чароўных дзяўчынак, якія прымалі ўдзел у дзіцячым забегу і адна з іх стала прызёрам. Другое месца – у **Дар'і Папко** з аграгарадка Кіраўская, трэцяе месца – у **Ганны Сухадольскай** з Маладзечна.

Завяршалі праграму спаборніцтваў мужчынскія забегі. Моцнай палове прыйшлося бегчы па вадзе цэлыя два кіламетры. У нялёгкай і напружанай барацьбе перамогу атрымаў **Міхаіл Невядомскі** з Крупак. Яго вынік – 14 хвілін 45 секунд. Другім прыбег **Андрэй Сушчэня** з Мінска, трэцім – **Яўген Тромза** з вёскі Старое Сяло.

**Самым пажылым удзельнікам спаборніцтваў стаў 75-гадовы Валеры Чэус.**

Таксама сярод мужчын бег **Сяргей Зыкаў** – чалавек, якому належыць ідэя правядзення першага ў Беларусі "Воднага забегу".

Свой удзел у забегу Сяргей аргументаваў так: "Я павінны быў асабіста апрабаваць гэту трасу, паколькі бег па вадзе – гэта зусім іншая нагрузка і не заўсёды прадказальная тэхніка праходжання воднай дыстанцыі. Цяпер, адчуўшы усё на ўласным досведзе, мы трохі перагледзім дыстанцыі "Воднага забегу" на наступны год. Гэта паўплывае як на скарачэнне дыстанцыі, так і на яе павелічэнне, каб даць удзельнікам пасільны выбар".

**Паводле Марыны КАЧАН, bfla.eu.**

## Спартсменка з Ашмянаў стала бронзавым прызёрам алімпійскага фестывалю ў Венгрыі

АШМЯНЫ

**Карына Егінян** стала бронзавым прызёрам у штурханні ядра сярод дзяўчат на Еўрапейскім юнацкім алімпійскім фестывалі ў Венгрыі з вынікам 15,77 метра. Перамогу ў гэтым сектары атрымала спартсменка з Нідэрландаў **Даален Аліда Ван** (16,23 метра), а сярэбраная ўзнагарода з'едзе ў Грэцыю разам з **Жазэфінай Клішэ** (15,85 метра), пра гэта паведамляецца на сайце Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

– Гэта не першыя мае міжнародныя спаборніцтвы, – кажа Карына, – да гэтага я выступала на чэмпіянаце свету ў Кеніі. Але гэта мой першы медаль на такім афіцыйным старце. Фінал прайшоў добра, праўда, у пачатку не ўсё атрымоўвалася, але пад канец сабралася і паказала добры вынік. Атмасфера была добрая, саперніцы моцныя, але змагацца з імі можна. Спаборніцтвы мне вельмі спадабаліся, хоць і ішоў дождж. Праўда, калі б я крыху сабралася ў апошняй спробе, можна было заваяваць срэбра.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Назва ракі, якая працякае ў Валожыне.
4. Стыль жывапісу, калі мастак побач з фарбай выкарыстоўвае іншыя матэрыялы (жалеза, дрэва) для стварэння карціны.
5. Сталая жанчына, звычайна замужняя.
6. Звычай выхавання ў Беларусі, калі шляхціцы на нейкі час аддавалі сваё дзіця ў сялянскую сям’ю.
7. У сярэдневяковых павер’ях – начное зборышча ведзьмакоў і ведзьмаў, якія ўчынялі шалёны разгул.
8. Металічны інструмент, які выкарыстоўваецца ў кавальскай справе для захоплівання і заціскання жалеза.
14. Польскі нацыянальны танец, а таксама музыка да гэтага танца.
16. Парода сабак і від мяккай скуры
17. Прэснаводная рыба сямейства карпавых з цёмна-сіняй спінай, белаватымі бакамі і серабрыстым брушкам.
18. Італьянскі духавы народны музычны інструмент з гліны або фарфору, па гуку падобны да флейты.
20. Рака ў Беларусі, Літве, Калінінградскай вобласці Расіі.
22. Белы клён. Пра яго Янка Купала напісаў адзін са сваіх вершаў.
25. Земляроб у старажытнай Спарце, які знаходзіўся ў становішчы раба.
27. Ніша для ложка ў сцяне пакоя.
28. Беларуская назва іван-чаю.
29. Уладзімір Дубоўка: “О, Беларусь, мая ...”.
31. Магчыма, гэты рачны пясок даў назву Ільі, што на Вілейшчыне
33. Пшанічны хлеб у выглядзе вялікіх тонкіх праснакоў, які ўжываецца ў Закаўказзі.
34. Спецыяліст па шыцці адзення.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Янка Купала: “На ... дачку княжну садзілі”.
3. Каб прыгатаваць гэту страву, трэба было нарэзаць кавалкамі клінковы сыр і абсмажыць яго на масле на патэльні ў печы.
8. Прозвішча расійскай спявачкі, якая нарадзілася ў Валожыне і жыла там да трохгадовага ўзросту
9. Прозвішча акцёра, які сыграе ў фільме “Вялікая Зямля” партызана Мікалая Кісялёва, які ў часы вайны выратаваў яўрэяў з Даўгінава.
10. Радыеактыўны элемент, які часам выяўляюць радыёлагі ў лясных ягадах.
11. Куст з чырвонымі ягадамі. У беларускай міфалогіі сімвал замужняй жанчыны.
12. “Пінская...”. Назва твора Вінцэнта-Дуніна Марцінкевіча.
13. Мястэчка на Маладзечаншчыне, дзе ў першай палове 20 стагоддзя працаваў мастак Язэп Драздовіч.
15. Дакладнае ўзнаўленне рукапісу, дакумента, подпісу пры дапамозе фотамеханічнай рэпрадукцыі.
19. Фарбавальнік цёмна-сіняга колеру, які ў мінулым здабываўся з соку некаторых трапічных раслін, а цяпер атрымліваецца хімічным спосабам.
21. Майстар, які займаецца вырабам раменнай вупражы.
23. Трубачка, якой карысталіся шкларобы для вымання вырабу з печы.
24. Жывёла, падобная да ваўка, якая водзіцца ў Паўночнай Амерыцы.
26. Месца рыцарскіх спаборніцтваў.
30. Казачны персанаж, у вобраз якога пераўвасобяцца дзяўчаты і жанчыны на адным з конкурсаў на “Юшка-фэсце” ў Вілейцы.
32. Гэта прозвішча насіў галоўны герой твора Максіма Танка Люцыян.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №30

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Калега. 3. Фотаздымак. 4. Гайдук. 5. Мядзел. 7. Кандэлябр. 8. Грэкі. 11. Калыска. 12. Грыб. 13. Канверт. 14. Гуталін. 17. Гавань. 20. Камісар. 21. Плябань. 24. Ланцугамі. 25. Ліма. 26. Акуляры. 27. Пахнуць. 28. Грог. 30. Шахматы. 35. Дэльта. 36. Фазан.
**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Канапа. 6. Камелія. 9. Калібр. 10. Каларыт. 14. Гандаль. 15. Габелен. 16. Дыплом. 17. Гоман. 18. Камлот. 19. Фаланга. 22. Глобус. 23. Дэкан. 27. Парахня. 29. Гумус. 31. Гмах. 32. Дыскатэка. 33. Канапелька. 34. Фанера.

## На “Юшка-фэсце” зладзяць конкурс русалак

“Юшка-фэст” пачнуць у 12:00 на гарадскім пляжы Вілейскага вадасховішча. У рамках яго зладзяць конкурс русалак.

У конкурсе могуць паўдзельнічаць усе ахвотныя жыхаркі горада і раёна ва ўзросце ад 15 гадоў. Дзяўчаткі, чый узрост малодшы за 14 год, таксама могуць паўдзельнічаць у суправаджэнні бацькоў.

Кожная русалка павінна будзе абараніць свой вобраз у час візітоўкі самастойна або з дапамогай групы падтрымкі.

Вітаюцца музычнае суправаджэнне, карагоды, крэатыўны падыход. Час выступлення – да дзвюх хвілін.

Журы ацэніць адпаведнасць казачнаму вобразу, крэатыўны падыход і арыгінальнасць касцюма.

Траіх пераможцаў абярэ журы шляхам галасавання.

Арганізатары конкурсу – Вілейскі райвыканкам, цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, вілейская арганізацыя прафсаюзаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## ГАРАСКОП 4-10 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Уласныя праблемы не спяшайцеся вырашаць “з гарачкі”. Спрыяльны час, каб пазбавіцца ад шкодных звычак: курэння, залішняга спажывання спіртнога, гультайства.



**ЦЯЛЕЦ.** Дні будуць спрыяльныя. Раскрыецца ваш творчы і дзелавы патэнцыял, і вы зможаце заняцца сваёй новай дзейнасцю ці, як мінімум, складаць планы на будучае, якім суджана збыцца. Вас чакаюць пачуццёвасць і рамантычнасць. Разам з вогненным запалам гэта дазволіць вам раскрыць сябе ў новых сферах дзейнасці, паказаць сябе з іншага боку.



**БЛІЗНЯТЫ.** Калі хто з вашых сяброў ці блізкіх трапіў у адчайнае становішча, будзьце акуратнымі, прапаноўваючы дапамогу. Тут трэба прадумаць кожнае слова. А вас чакае творчы пад’ём. Магчыма, захочаце памяняць свой імідж, зрабіць новую прычоску ці змяніць стыль адзення. Змены пойдуць вам на карысць.



**РАК.** Ёсць рызыка стаць заложнікам сваіх мар. Свет, які вы перад сабой бачыце, можа значна адрозніваца ад таго свету, з якім вам прыйдзецца сутыкнуцца. Вас чакае палёт фантазіі, а таксама розныя заманлівыя прапановы, якія дазволілі б рэалізаваць вашы мары. Але, на жаль, не на гэты раз. Звядзіце ўсялякія перамены да нуля і як мага менш дзеянняў.



**ЛЕЎ.** Гэтыя дні варта прысвяціць самым блізкім для вас людзям. Вас будуць акружаць спрыяльныя падзеі і радасныя моманты.



**ДЗЕВА.** Магчыма, вы неспадзявана паедзеце куды-небудзь адпачываць, калі яшчэ не былі ў адпачынку. Ці яшчэ будзе якая нагода для паездкі. Будзьце гатовыя хутка сабраць чамаданы. Вам даецца магчымасць знайсці ўплывовых знаёмых, здольных унесці прыемныя перамены ў ваша жыццё.



**ШАЛІ.** Гэтыя дні падыходзяць для тых, хто прывык дзейнічаць сваімі сіламі і разлічваць толькі на сябе. Спрыяльныя яны і для ўсіх пачынанняў. Вы можаце атрымаць падтрымку, але яна, хутчэй за ўсё, будзе афармленая ў вуснай форме. Хоць карысці ад гэтага і мала, затое дадасць вам ўпэўненасці ў сабе.



**СКАРПІЁН.** Вы можаце закласці падмурак вашага поспеху ў будучым, і лёс, можа, праз іншых людзей, паведаміць вам, як і што рабіць. Цяпер у вас ёсць магчымасць адпачыць і атрымаць асалоду ад жыццёвых радасцяў.



**СТРАЛЕЦ.** Гэта тыдзень актыўнасці, добрага настрою, удачы. Можна сябе папесціць і схадзіць на канцэрт джазавай музыкі. Увогуле, джаз – гэта ваш дэвіз, ваш рытм жыцця. Калі вы адзінокія, то ёсць магчымасць пазнаёміцца, калі адчуваеце сябе ўшчэмленымі ў бізнесе – то сустрэнеце “патрэбнага” чалавека.



**КАЗЯРОГ.** Вам даецца права выбару. Памятаеце, як у казцы: “Пойдзеш налева – галаву згубіш, пойдзеш прама – розум страціш, пойдзеш направа – шчасце знойдзеш. Правільнасць рашэння і праз пяць гадоў адчуеце.



**ВАДАЛЕЙ.** Вам гэтыя дні прыйдзецца круціць кола Фартуны ў свой бок. Задача гэта хоць і прыемная, але няпростая. Ад вас запатрабуюцца актыўныя і рашучыя дзеянні, ініцыятыўнасць і напорыстасць ў справах. Ідэі адразу ўвасабляйце ў жыццё, яны прынясуць поспех.



**РЫБЫ.** Вам будзе дадзеная магчымасць навучыцца ўтрымліваць баланс паміж вашымі імкненнямі да матэрыяльных каштоўнасцяў і духоўных радасцяў. Праявіўшы кемлівасць і мудрасць, вы зможаце знайсці спосаб, як сумясціць прыемнае з карысным.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 9 | | | | 8 | | |
| | 3 | 2 | | 9 | | | | |
| 4 | | | | | 7 | | 3 | 6 |
| | 9 | | | 6 | | | | 8 |
| 8 | | | 1 | | 9 | | | 5 |
| 1 | | | | 3 | | | 4 | |
| 5 | 2 | | 6 | | | | | 4 |
| | | | | 8 | | 6 | 2 | |
| | | 7 | | | | 5 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

**5 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +18 / +26 | | +17 / +23 | | +15 / +23 | | +18 / +22 | |
| | 736 | → 5 | 739 | → 5 | 743 | ↗ 2 | 743 | ↘ 3 |
| **Вільня** | +16 / +21 | | +16 / +21 | | +14 / +21 | | +14 / +19 | |
| | 742 | → 5 | 744 | → 6 | 748 | ↗ 3 | 749 | → 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.33
Захад 21.04
Даўжыня дня 15.31

Усход 19.36
Захад 3.09
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +9 °С у 1988 годзе
Максімальная тэмпература +31,2 °С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 35,6 мм у 1979 годзе
Паводле meteoinfo.by



## Чытайце праз тыдзень:

● **Юрась Камандзірчык з Мядзельшчыны апрацоўкай дрэва займаецца даўно. Сярод апошніх вырабаў майстра – драўляныя... ручнікі. Пра захапленне жыхара Нарачы чытайце ў наступным нумары.**





● ПРОСТА АНЕКДОТ

Як казала мая бабуля: у доме, дзе ёсць дзеці, ідэальна чыста можа быць толькі ў вазачцы з цукеркамі.

***

– Жонка, я вось думаю яшчэ гектар зямлі калгаснай прыкупіць.

– А я думаю, чаму гэта наш конь плача.

***

Я знайшла сабе мужчыну. Разумнага, добрага, вернага, прыгожага. І была вельмі шчаслівая... Пакуль разумны не даведаўся пра добрага, а верны пра прыгожага.

***

Мама з маленькай дачкой у краме:

– Дачушка, што табе купіць?

– Пакуль не ведаю, але два.

***

– Вы такі худзенькі! Што вы ясце?

– Тое, што і вы, толькі на паўвядра менш.

***

Цэлы дзень ляпіла пельмені. А муж вечарам прыйшоў, з'еў і кажа:

– Не купляй такія больш.

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙШЧЫНЫ



Фота Ігара МАРОЗА.

**"Я здарожыўся трошкі, я хвілінку пасплю"... Вёска Асіпавічы Вілейскага раёна.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што вы ведаеце пра Максіма Багдановіча

**(Да 100-годдзя з дня смерці паэта)**



**Ганна Пыльская, мастачка:**

– Я ведаю, што ён пісаў пра сваю Бацькаўшчыну, шмат вершаў пра каханне. Яго вершы перакладзены на розныя мовы свету. На жаль, ён рана памёр.



**Кірыл Мушавец, студэнт:**

– Мой любімы беларускі паэт. Яго творчасць напоўнена нацыянальным каларытам і асабістымі перажываннямі. Асабліва ўражанне на мяне зрабіў яго верш "Пагоня". У Ракуцёўшчына ёсць музей-сядзіба Максіма Багдановіча, дзе мне ўдалося пабываць і я даведаўся шмат цікавага.



**Алена Раманенка, бібліятэкарка:**

– Шкада, што такі таленавіты паэт хварэў і ў такім маладым узросце памёр. Думаю, калі б ён пражыў больш часу, то стварыў бы шмат выдатных твораў. У нас яго таксама чытаюць. Дзеці малодшых класаў – па праграме, дарослыя цікавяцца паэзіяй Багдановіча па сваім жаданні.



**Дзмітры Рымдзёнак, студэнт:**

– Я мала памятаю з біяграфіі. Затое байку "Варона і чыж" помню са школы! Такія сітуацыі, як у гэтай байцы, я не раз сустракаў у жыцці. Ды і сам быў яе героям.



**Ксенія Хадакоўская, школьніца:**

– Я не адзін раз была ў музеі паэта. Люблю яго вершы, асабліва "Зорку Венеру", словы якой былі пакладзены на песню. За душу кранае верш "Слуцкія ткачыхі".



**Ала Русіянава, фатограф:**

– Гэта беларускі паэт. Ён рана памёр ад сухотаў. Апошні раз чытала яго вершы падчас вучобы ў школе.



**Настасся Сярболіна, загадчыца філіяла "Фальварак Ракуцёўшчына":**

– Гэта цікавы паэт з прыгожымі вершамі. Пра яго можна гаварыць шмат. Побач з музеям ёсць крынічка Багдановіча. Яна існавала і пры самім паэце. Ёсць верш пра крыніцу, які Багдановіч прысвяціў гэтаму месцу. Ён нават лічыў, што крынічка дапамагала яму на нейкі час справіцца з хваробай. Людзі і цяпер бяруць адтуль ваду.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ, студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№31 (1162) 4.08.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 730. Падпісана ў друк у 9.00 3.08.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.